№ 5(9)/97



# Беларускія Ведамасьці

ВЫДАЕЦЦА Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫ ПОЛЬСКАЙ МОВАХ
Пры садзеяньні "National Endowment for Democracy" і супрацоўніцтве Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Амэрыцы
ВАРШАВА, кастрычнік-лістапад 1997 ГОДА

## ДОСЫЦЬ ПРЭЗЫДЭНЦТВА!

### Ліст да грамадзянаў Беларусі аб адстаўцы Лукашэнкі

*Яшчэ год таму назад я не зьвярнуўся б з такім лістом да беларускіх людзей. Бо яшчэ жыло ў іх пераканаьне, што яны зрабілі разумна й правільна, выбраўшы Лукашэнку, што „прэзыдэнту перашкаджаюць", што вінаваты ва ўсім ня ён, а таемныя „ворагі". Відавочна, яшчэ ня ўсе камяньні былі кінутыя і ў мой бок як „ворага прэзыдэнта". Воляй лёсу мне прыходзілася папярэджваць яшчэ ў 80-гадох аб злачыннасьці КПСС і аб немінучасьці распаду Савецкага Саюзу. Потым – аб здрадніцтве й прамаскоўскай палітыцы Кебіча, аб небясьпецы расейскага імпэрыялізму, аб плянах усталяваньня прамаскоўскай паліцэйскай дыктатуры Лукашэнкі на Беларусі, аб пагрозе незалежнасьці й дзяржаўнаму існаваньню нашай краіны, аб задуме аднаўленьня таталітарызму на абшарах былога СССР. Гэта, паўтараю, сказана не цяпер, а два, тры, пяць, дзесяць гадоў назад. Але нашаму грамадзтву, відаць, наканавана спачатку нічога ня ўспрымаць, а потым усё няўспрынятае – перажыць. І так – бясконца.*

*Ці не настаў усё ж час прыняць правільнае калектыўнае рашэньне?*

*Мне кажуць: калі ты думаеш правільна – чаму ж ты не перамог? Перамога наперадзе. Але справа ня ў гэтым. Я не перамог разам з вамі. Мы разам пацярпелі паразу. У 1994 годзе прымітыўна ашукалі ўвесь беларускі народ. А тыя, хто гэтае ашуканства бачыў і разумеў, нічым не маглі дапамагчы. Колькі ж яшчэ трэба часу, якіх ахвяраў, якіх страт, якіх зьняваг нашай беларускай годнасьці, якога яшчэ трэба пагаршэньня, каб гэтае ашуканства ўсьвядоміць і зразумець? Ці не пара?*

*Пытаньне аб немінучай адстаўцы Лукашэнкі зноў пастаўлена Народным*

*Фронтам. Цяпер ужо ня дзейнічае прававы мэханізм „імпічманту", бо ўсталяваная дыктатура. Але з дыктатурай можна пасьпяхова змагацца сілавым масавым грамадзкім націскам на дыктатара ва ўсіх сфэрах жыцьця: у палітыцы й грамадзкай дзейнасьці, у навуцы й мастацтве, у прафсаюзным руху й на працы, на вуліцах і ў друку, нават у быце й штодзённых дачыненьнях. Усё павінна быць падпарадкаванае адной мэце: „Лукашэнка, ідзі ў адстаўку!"*

*Падтрымлівайце ў гэтых дзеяньнях і палітыцы Беларускі Народны Фронт – Вызвольны Рух, які трымае ў руках нацыянальны сьцяг беларускага Адраджэньня. Падтрымлівайце актыўна. Перад нашай масавай сілай і агульным непрыняцьцем дыктатуры шмат што пачне зьмяняцца. Нават хаўрусьнікі Лукашэнкі стануць ад яго аддаляцца й яго пакідаць. Яго загады перастануць выконваць нават тыя, на каго ён спадзяецца. Зямля паплыве з-пад ног гэтага авантурнага чалавека. Адстаўка стане рэальнай.*

*Аднак, змагаючыся за адстаўку Лукашэнкі, мы павінны памятаць, што галоўная наша палітычная задача, якую ўвесь час сьцьвярджае Народны Фронт і да чаго мы імкнемся, гаворачы пра адстаўку, – гэта ліквідацыя ўвогуле прэзыдэнцкай сыстэмы ў Беларусі й скасаваньне пасады прэзыдэнта. Беларусь мусіць быць не прэзыдэнцкай, а парляманцкай краінай. Інакш узьнікне новы дыктатар (ці паўдыктатар) і новая маскоўская марыянэтка.*

*– Чаму? – спытаеце вы. Таму што, па-першае, Маскве й яе спэцслужбам лёгка ўмяшацца й уплываць на ход падзеяў, калі абіраюць на найвышэйшую пасаду аднаго чалавека, а не 260. Правёўшы свайго чалавека на беларускі пасад (як гэта лоўка зрабілі яны з Лукашэнкам), маскоўцы будуць аб'ектыўна зацікаўленыя ў павялічэньні яго ўлады, каб лепш трымаць Беларусь.*

*Парлямант у 260 асобаў (ды з розных партыяў) ня можа стаць дыктатарам. Парляманцкая сыстэма ўжо па самой сваёй фармальнай сутнасьці прадугледжвае элементы дэмакратыі. Гэта шлях да дэмакратыі й школа дэмакратыі для грамадзтва.*

*І трэба ўлічыць, што нашае грамадзтва – постсавецкае. Наш чалавек за часы расейскай і бальшавіцкай акупацыі прывучаны слухаць начальства, а не закон. Бо ён жыў пры азіяцкім рэжыме, дзе галоўнаю была ўлада, а не законы, дзе было так, як начальства скажа. Людзі, выхаваныя ў такіх умовах, чакалі й спадзяваліся на добрага начальніка, а не змагаліся за гарантыі ажыцьцяўленьня права, роўнага для ўсіх (для начальнікаў і неначальнікаў). Гэткія грамадзкія акалічнасьці якраз і спрыяюць ажыцьцяўленьню дыктатуры. Шляхам жа да яе ў такіх варунках служыць прэзыдэнцкая сыстэма ўлады. Пра гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ папярэджвалі ў 1991 годзе, калі ў атачэньні Кебіча ўпершыню ўзьнікла ідэя прэзыдэнцтва, і ў 1994 годзе, калі Вярхоўны Савет галасаваў за Канстытуцыю.*

*Пасьля адстаўкі (ці адхіленьня) Лукашэнкі ад пасады адразу павінны быць праведзены парляманцкія выбары. Выбары новага парляманту па старым, недасканалым выбарчым законе будуць, безумоўна, няпростыя, але ў цэлым прадказальныя, каб гарантаваць зьмену паламанай парляманцкай рэспублікі. Парлямант фармаваў бы ўрад і прызначаў бы прэм'ер-міністра, які валодаў бы функцыямі кіраўніка дзяржавы. У выпадку парляманцкага крызысу й немагчымасьці стварыць урад, рашэньне аб роспуску парляманту й новых выбарах прымае Канстытуцыйны Суд. Гэткая традыцыйная парляманцкая сыстэма стала б для беларусаў крокам да лепшай будучыні.*

*Беларускі Народны Фронт прапануе беларусам абапірацца перш за ўсё на саміх сябе й праводзіць такую палітыку, якая забясьпечвала б становішча людзей і ўзровень жыцьця, як у эўрапейскіх краінах, а не як у Расеі. Дзеля гэтага й супрацоўнічаць трэба найперш з Эўропай, і рабіць шмат што гэтак, як яны, бо мы, беларусы, – народ эўрапейскі.*

*Змагаючыся з дыктатурай, мы павінны сваё змаганьне засьведчваць. Гэта пазбаўляе людзей страху й надае ўпэўненасьці, кансалідуе аднадумцаў. Лукашэнка й яго памагатыя павінны ведаць, што людзі іх не баяцца й адкрыта патрабуюць, каб прэзыдэнт ішоў у адстаўку. Прапаную сьмела далучацца да ініцыятывы Беларускага Народнага Фронту аб адстаўцы Лукашэнкі й ліквідацыі дыктатуры ў Беларусі.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага***
***Народнага Фронту „Адраджэньне"***

## ЧОРНЫЯ ЎГОДКІ

24 лістапада гадавіна антыканстытуцыйнага перавароту і трываньня антыбеларускага рэжыму. Аднак рэжым ніяк не адзначыў гэты ўрачысты для яго дзень. Няма чым хваліцца. І сапраўды, калі звычайнаму чалавеку азірнуцца назад і пракруціць эмацыйна-інфармацыйныя карціны ў галаве, то калейдаскоп ствараецца змрочны: беднае цяжкое жыццё, вытарачаныя вочы на тэлеэкране, квакаючы голас у эфіры, амапаўскі камуфляж, шчыты і дубінкі, панурыя твары, азлобленыя людзі.

На Захадзе часта прыходзіцца чуць пра беларусаў, што яны самы захацелі такога свайго жыцьця. Як захацелі, так і жывуць. У гэтым ёсьць доля праўды. Лістапад – цяжкі, чорны месяц на Беларусі. Менавіта ў лістападзе 80 гадоў назад адчынілася скрынка Пандоры, распаўзьліся-разьбегліся гады, і цёмная чэрнь захапіла паўсьвету. Людзьмі і дзяржавамі пачалі кіраваць крымінальнікі і забойцы. Іхная ідэалёгія стала афіцыйнай, іхная мараль зрабілася пануючай. На ёй выраслі, выхоўвалі, стваралі прыклады. Але ўсё развалілася, бо нічога не ствараецца на нянавісьці, акрамя нянавісьці.

У сьвеце так і не знайшлося палітычнае маральнае сілы, каб асудзіць крымінальную ідэалёгію камуністычнага таталітарызму як злачынную супраць чалавецтва і забараніць навечна яе легалізацыю ў грамадстве. Не знайшлося Волі асудзіць злачынцаў камунізму. Камуністычны Нюрнбэрг не адбыўся. Усе засталіся. Таму чэрнь вяртаецца. Вяртаецца разам са сваёй гісторыяй. Вяртаюцца цені Ібсэна, бо ня здолелі жывыя сказаць сваё „*не*" і чалавечым судом асудзіць. „Неяк жа будзе." Думалі, што зробіцца ўсё само па сабе. Зрабілася.

Лукашэнка, усё роўна як мэдыятар, як рэзануючы мэдыюм, выцягнуў на паверхню самыя цёмныя, самыя азлобленыя пачуцьці з глыбінь людзкіх, дзесяцігоддзямі зьняважаных істот. Яны садзяцца перад тэлевізарам, глядзяць у клёкат на экране і пазнаюць сваё адлюстраваньне. Псыхолягі ведаюць, што з найбольшым задавальненьнем глядзіць чалавек на сябе. Кожны народ варты свайго кіраўніцтва. Толькі ніколі народ не бывае аднолькавы, бо не стаіць на месцы. Паміраюць адны, вырастаюць іншыя. І гэтыя іншыя не ўспрымаюць клёкат, не пазнаюць сябе ў адлюстраваньні. І хоць дыктатура існуе — яна ўжо скончана ў нябачнай сфэры. Дзень за днём гадзіньнік адлічвае яе апошні час. Яна яшчэ моцная, палачная і бранявая. Яна яшчэ ўмацоўваецца, але ўжо нічога не дапаможа, бо ня толькі дух — сама прырода не ўспрымае яе.

Вельмі важныя ацэнкі і глыбінныя перамены сьпеюць зараз ціха пад покрывам цемнаты ў галаве і душы беларусаў. Нацыя і дзяржава, Бог і чалавек, чалавек і зямля, Беларусь і Расея — цепліцца гэты тарфяны пажар, курыць, запалены ахвярамі *непадобных*. І ніводная ахвяра не была й ня ёсьць надарэмна. Заходзьце, спадарыні і жыхары, куды-небудзь, сядайце ля тэлевізара, яшчэ ёсьць крыху часу.

***Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ***



*Вадзім Лабковіч*



*Аляксей Шыдлоўскі*

## ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗЬНІ РЭЖЫМУ

Грубасьць, жорсткасьць, цынізм і зьнявага, зь якой дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ўжывае сілу супраць беларусаў, нязгодных зь яго акупацыйнай палітыкай, уразіў увесь сьвет. Галоўны рэпрэсіўны ўдар скіраваны цяпер супраць беларускай моладзі, школьнікаў і студэнтаў, якія найбольш раздражняюць Лукашэнку.

25 жніўня схапілі і кінулі бяз суда ў турму актывістаў *Маладога Фронту — 18-гадовага **Аляксея Шыдлоўскага*** (г.Стоўбцы), *22-гадовага **Вадзіма Кабанчука*** (г.Бабруйск) і *16-гадовага школьніка **Вадзіма Лабковіча*** (г.Менск). У турме ўсіх жорстка зьбілі. А.Шыдлоўскі пасьля зьбіцьця трапіў у турэмны шпіталь.

Ім прад'явілі абвінавачваньне ў роспісе сьцен антыпрэзыдэнцкімі лёзунгамі і заклікамі за свабоду Беларусі. Па закону гэтае абвінавачваньне (як і ва ўсіх іншых выпадках) не вымагае садзіць непаўналетніх у папярэднюю (сьледчую) турму. Ужо чацьвёрты месяц так званыя „сьледчыя" гэтае абвінавачваньне ня могуць даказаць. (Ды, відаць, і не зьбіраюцца.) Маладым палітычным вязьням адмовілі ў спатканьнях з бацькамі, бацькам забаранілі перадаваць арыштаваным усялякія перадачы, нават лякарствы, есьці даюць праз дзень. Да іх не дапускаюць адвакатаў. Калі вучню Лабковічу нейкім чынам удалося перадаць падручнік па беларускай мове, турэмная адміністрацыя гэты падручнік у яго адабрала і парвала. Хлопчыка, ні ў чым не вінаватага, пазбавілі права вучыцца ў школе. Цяпер яму зноў удалося перадаць школьныя падручнікі. Але турэмнае начальства забараніла настаўнікам наведаць і праэкзаменаваць вучня. Уся 95-я школа Менска, дзе вучыўся Вадзім, і ўсе настаўнікі стаяць за яго і абураныя варварствам рэжыму.

У Беларусі і ў беларускай эміграцыі множацца патрабаваньні вызваліць маладых вязьняў рэжыму Лукашэнкі. Іх трымаюць у Жодзінскай сьледчай турме (г.Жодзіна, 40 км ад Менска), каб цяжэй было даехаць бацькам, сябрам і абураным людзям.

Я зьвяртаюся да сусьветнай грамадзкасьці, да беларусаў замежжа з заклікам узьняць свой голас у абарону і за вызваленьне з турмы гэтых беларускіх юнакоў. Нельга маўчаць, калі побач топчуць годнасьць маладога чалавека.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне"***

**Вадзім ЛАБКОВІЧ**

Родам зь Менску. 16 гадоў. Вучань 11-га кляса 95-й школы г.Менска. Добра вучыцца. Першы раз быў затрыманы вясной 1997г. пад час масавай маладзёвай маніфэстацыі супраць дыктатарскага рэжыму. Зноў арыштаваны 27 жніўня. Абвінавачаны па арт.201 ч.2 і 86 ч.2 Крымінальнага Кодэксу („злоснае хуліганства" і „зьнявага дзяржаўнай сымволікі"). Кадэбісты лічаць, што ён разьвешваў у горадзе беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Маці, Лабковіч Ядзьвіга Язэпаўна, таваразнаўца. Выхоўвае адна Вадзіма і меншага сына 4-класьніка. Маці В. Лабковіча адмовілася на запатрабаваньне пракурора Стаўпцоўскага раёна даваць паказаньні супраць сына. За гэта пракурор не дазволіў ёй спатканьні з сынам (што зьяўляецца парушэньнем закону, тым больш, што Вадзім непаўналетні).

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Студэнт 1-га курса журналісцкага факультэту Беларускага Дзяржаўнага універсытэту. 18 гадоў (нарадзіўся 27.12.1978). Выключаны з унівэрсытэту летам 1997г. за палітычную



*Вадзім Кабанчук*

дзейнасьць у „*Маладым Фронце*". Вясной 1997 года быў арыштаваны на 10 сутак за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях пратэсту супраць рэжыму. Трымаў галадоўку.

Родам са Стоўбцаў. Бацька, Міхась Пятровіч, працуе шафёрам. Маці, Раіса Янаўна, працуе на раённай пошце. Арыштаваны 25-га жніўня. Прад'яўлены тыя ж абвінавачваньні, што і В.Лабковічу. Сьледчы, які вёў справу ў Стоўбцах — **Панін Всілій Сцепанавіч**. Пракурор — **Мяцельскі Сяргей Васілевіч**. Са Стоўбцаў Аляксея перавялі ў Жодзіна. Там ён абвясьціў галадоўку пратэсту. За гэта быў па-зьверску зьбіты адміністрацыяй Жодзінскай сьледчай турмы. Страціў сьвядомасьць. Трапіў у рэанімацыю турэмнага шпіталю. Абвастрыліся хваробы: арытмія сэрца, астматычныя прыступы, запаленьне нырак.

**Вадзім КАБАНЧУК**

Выпускнік Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі аўтатрактарнага факультэту, 22 гады. Арыштаваны 12-га кастрычніка пасьля масавай акцыі *Народнага Фронту* за ўдзел у вясновых дэманстрацыях. Знаходзіцца ў сьледчай турме ў Менску. Нарадзіўся і жыве ў Бабруйску. Бацька, Міхась Апанасавіч, рабочы. Маці, Тацьцяна Карпаўна, бібліятэкар. Два прадзеды Вадзіма загінулі ў сталінскіх лягерах у Сібіры. Бабуля пры Сталіне адседзела восем гадоў і вярнулася з лягераў сьляпой.

У турме ў Вадзіма абвастрыліся хваробы нырак (піяланэфрыт), горла і сэрца. Маці забаранілі перадаваць яму лекі.

# МАЛАДЫЯ

*Вадзіму Лабковічу,*
*Аляксею Шыдлоўскаму,*
*Вадзіму Кабанчуку.*

***— Люблю Беларусь!***
***— То ўзаемна!***
***Пароль Каліноўскага —***
***Споведзь і ўздых.***
***Калі Беларусі турэмна,***
***Стараецца вораг дарэмна***
***Прымусіць пакорнымі быць***
***Маладых.***
***Жыве Беларусь! —***
***Сонцавіта***
***Лунацьмуць***
***Купалавы словы ў вяках.***
***Жыві, маладая эліта,***
***Табою свабода абжыта.***
***Ускрэснуць***
***Далоні твае на цьвіках!***

***Рыгор БАРАДУЛІН***

# ХРАНАЛЁГІЯ ПАРУШЭНЬНЯЎ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА НА БЕЛАРУСІ (1997)

**(Менскі Цэнтр у абарону правоў чалавека „Вясна-96")**

### ЖНІВЕНЬ (працяг)

Менск. *26 жніўня* на заяўку ***Фактаровіча А.Д.*** аб правядзеньні сэрыі пікетаў у знак пратэсту супраць паніжэньня жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Менгарвыканкам дазволіў адзін пікет ў колькасьці дзесяці чалавек. Абгрунтаваньне пра забарону іншых дзён пікета не падлягае ніякай крытыцы. Прэзыдэнцкая „вертыкаль" парушае законы і правы грамадзянаў.

*27 жніўня* пад час прыезду ў Стоўбцы на вакзале міліцыяй затрыманы 16-гадовы ***Вадзім Лабковіч***, сябра Аляксея Шыдлоўскага. Вадзіма на вакзал прыйшлі сустракаць жонка Аляксея Іна і ягоны брат. Вынікае, што іхні тэлефон праслухоўваўся, а за імі было сачэньне. Вадзім знаходзіцца ў Стаўбцоўскім сьледчым разьмеркавальніку.

*29 жніўня* на кватэры старшыні спэцыяльнай камісіі Вярхоўнага Савета 13 скліканьня ***В.Ганчара*** быў праведзены ператрус. Праваахоўчыя органы шукалі чарнавікі заключэньня камісіі пра парушэньне прэзыдэнтам А.Лукашэнкам Канстытуцыі і законаў краіны. У сувязі з гэтым заключэньнем, Менская гарадзкая пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу. В.Ганчар у прымусовым парадку быў дастаўлены ў гарадзкую пракуратуру ў якасьці падазраваемага ў паклёпе на прэзыдэнта. („*Пагоня*",— 2.09.97 г.)

*30 жніўня* у Менску прайшла акцыя ў падтрымку *свабоды слова* і арыштаваных журналістаў ***Паўла Шарамета і***

*Дзьмітрыя Завадзкага.* Група журналістаў прайшла маршам, пераапранутая ў арыштанцкія робы. Потым адбыўся мітынг, пад час якога журналіст і паэт ***С.Адамовіч*** зашыў сабе рот. (*"Пагоня"*,— 2.09.97 г.)

Пачынаючы ад *27 траўня па 29 жніўня,* ***Віктарам Абрамовічам***, жыхаром г.Магілёва, было пададзена ў гарвыканкам г.Магілёва **103 заявы** на правядзеньне вулічных шэсьцяў і мітынгаў. Аніводная зь іх не была задаволеная.

## ВЕРАСЕНЬ

На пачатку верасьня пад падпіску аб нявыезьдзе з турмы адпушчаны аператар Грамадзкага Расейскага Тэлебачаньня Дз.Завадзкі. Зварот да прэзыдэнта пра зьмяненьне меры пакараньня быў, па яго ных словах, узяты ў яго недапушчальнымі мэтадамі, пад уціскам.

На пачатку верасьня працягваліся нападкі *на пробашча каталіцкага касьцёла* ў Нясьвіжы ***Г.Акалатовіча*** і ўціск *на вернікаў парафіі* з мэтаю адабраньня будынку касьцёла ў дзяржаўную маёмасьць і уключэньня касьцёла ў комплекс палацу Радзівілаў, які мяркуецца пераўтварыць у рэзыдэнцыю прэзыдэнта. („*Свабода*",— 5.09.97 г.)

*4 верасьня* у Вільні, пад час сустрэчы лідэраў 12 краінаў Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, адбыўся *пікет беларусаў*, якія жывуць у Летуве, супраць антыбеларускай палітыкі, якую праводзіць прэзыдэнт Лукашэнка.

5 верасьня „*Народная Воля*" надрукавала заяву ***Дж.Сораса***, у якой ён паведамляе пра спыненьне дзейнасьці фонду ў Беларусі. Дж.Сорас адзначае, што „*улады сыстэматычна аказвалі ўціск на фонд, які выразіўся ў нападках на яго кіраўніцтва, палітычна матываванай праверцы, несправядлівых і непамерных штрафах, арышце банкаўскага рахунку... Фактычна Беларусь зьяўляецца адзінай краінай у блоку посткамуністычных краінаў, дзе наш фонд зачынены*".

*11 верасьня* ***Ігар Лазарчук і Марат Кульбіцкі*** ўсклалі вянок да помніка Ф.Дзяржынскаму, у сувязі зь ягоным 120-годдзем з дня нараджэньня. Вянок быў абматаны калючым дротам і з надпісам: „*Галоўнаму кату камуністычнага рэжыму*". Праз 5 хвілінаў І. Лазарчук быў арыштаваны і адвезены ў Ленінскі РАУС, а М.Кульбіцкаму невядомыя ў цывільным сказалі:"Табе апошняе папярэджаньне". Пасьля гэтага І. Лазарчука адвезьлі ў Ленінскі суд, дзе суддзя **Алёна Цярэшчанка** ў прысутнасьці двух сьведкаў-міліцыянтаў вынесла прысуд па арт. 156 Адміністрацыйнага кодэксу „за зьнявагу грамадзкай думкі і парушэньне грамадзкага парадку" штраф у памеры 200 тыс.руб.

*15 верасьня* пад час працы ў банку ўзброенымі міліцыянтамі быў схоплены *намесьнік старшыні БНФ **Ю.Беленькі.*** Ён быў дастаўлены ў РАУС Савецкага раёна г.Менску, дзе на яго быў складзены пратакол за ўдзел у шэсьці 27 ліпеня ў Дзень прыняцьця Дэклярацыі аб Незалежнасьці Беларусі. Але, ня маючы санкцыі Генеральнага пракурора на арышт Ю.Беленькага, які быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12 скліканьня, міліцыянты былі вымушаныя адпусьціць яго.

*19 верасьня,* на раніцы, міліцыянтамі Савецкага РАУСа быў гвалтам выцягнуты са сваёй кватэры дэпутат ВС 12 скліканьня *намесьнік старшыні БНФ **Ю.Беленькі*** і дастаўлены ў суд Савецкага раёна, дзе суддзя **Ганчарык** асудзіла яго за ўдзел у сьвяткаваньні Дня Дэклярацыі аб Незалежнасьці на 10 сутак зьняволеньня. На патрабаваньне Ю.Беленькага прадставіць яму адваката, перакладчыка з рускай мовы і выставіць са свайго боку сьведак, суддзя яму *адмовіла.*

*19 верасьня* ***Згуртаваньне беларускіх жанчынаў*** аднесла і аддало Генеральнаму пракурору петыцыю, у якой яны патрабуюць выпусьціць на волю двух *маладых палітычных вязьняў **А.Шыдлоўскага*** і **непаўналетняга вязьня рэжыму *В.Лабковіча.***

*23 верасьня* ***А.Шыдлоўскі***, зьняволены актывіст „*Маладога Фронту*", паўторна абвясьціў *галадоўку.*Першая галадоўка была спынена ў выніку зьбіцьця А.Шыдлоўскага супрацоўнікамі міліцыі ў Жодзінскім СІЗА, пасьля чаго ён страціў сьвядомасьць і быў пакладзены ў лягерны шпіталь.

*30 верасьня* Менская гарадская калегія адвакатаў вывела са свайго складу адваката ***Гары Паганяйлу***, абаронцу арыштаваных журналістаў.

*30 верасьня* (па зьвестках зь *Беларускага Гэльсінскага Камітэту*), ***Аляксандар Контусь,*** рабочы завода Другасных чорных металаў, затрыманы супрацоўнікамі Заводскага РАУС і зьбіты да страты сьвядомасьці за тое, што ён зьяўляецца сябрам БНФ. У яго забралі 300 тыс.руб. Ён знаходзіўся на лячэньні ў 10 клінічным шпіталі г.Менска з дыягназам „*пералом 8-10 рэбраў з пранікненьнем рэбраў у поласьць лёгкіх*". Як паказвае А. Контусь, асаблівую жорсткасьць пры зьбіцьці праявіў участковы інспектар Заводскага РАУСа **І.Н. Каўшырка.**

У верасьні Генеральны пракурор Беларусі **А.Бажэлка** разаслаў указаньне абласным пракурорам *задняй датай* спагнаць з прыватных натарыюсаў падаткі, якія фактычна спыняць прыватную натарыяльную дзейнасьць. Зроблена гэта для поўнага падпарадкаваньня натарыяльнай практыкі дзяржаве.

За актыўную палітычную дзейнасьць з трэцяга курса факультэта міжнародных адносінаў Белдзяржуніверсытэту адлічаны сябра ***„Маладой Грамады"*** ***Сяргей Марцалеў.*** Падстава — выпрабаваны прыём расправы з няўгоднымі студэнтамі: нлуздача іспыта па медыцынскай падрыхтоўцы. Вырашаецца справа адлічэньня з гэтага ж факультэта старшыні *„Маладой Грамады"* ***Мікалая Прываріткава.***(*"Беларуская маладзёжная"*,— 17.10.97.)

## КАСТРЫЧНІК

У Бабруйску адбыўся напад на штаб-кватэру арганізацыі дэмакратычнай лібэральнай моладзі „*Грамадзянскі форум*".

*1 кастрычніка* Міністэрства юстыцыі прыпыніла ліцэнзію аднаму з адвакатаў журналіста П.Шарамета ***Міхаілу Воўчаку***, без якой ён ня можа займацца адвакацкай практыкай.

*1 кастрычніка* скасаваная ліцэнзія адвакату А.Шыдлоўскага ***Арсенію Скарулісу***, якому ўлады, апроч гэтага не даравалі ўдзел у абароне аднаго з украінцаў, асуджаных за ўдзел у Чарнобыльскім шэсьці 1996 г.

*1 кастрычніка* стаўбцоўскі пракурор **С.Мяцельскі** не дазволіў ***маці 16-гадовага В.Лабковіча*** спаткацца з сынам, які ўжо больш за месяц як знаходзіўся пад арыштам. Перад гэтым пракурор пракаментаваў сваё рашэньне адмоваю маці даць паказаньні супраць свайго сына. Таксама было адмоўлена ў спатканьні з сынам і ***маці А.Шыдлоўскага.***

*2 кастрычніка* па загаду Генеральнага пракурора Беларусі **А.Бажэлкі** аднавіліся раскопкі ў ***Курапатах***, месцы масавых сталінскіх расстрэлаў у 30-я гады. Такім чынам улады ўжо ў чацьвёрты раз спрабуюць перагледзець урокі асуджэньня сталіншчыны на Беларусі і адбяліць тэрарыстычны камуністычны рэжым.(„*Свабода*",— 3.10.97 г.)

3 кастрычніка, як паведаміла газэта „*Свабода*", прапрэзыдэнцкая маладзёжная арганізацыя **БПСМ,** згодна загаду Міністэрства адукацыі, будзе ўдзельнічаць у разьмеркаваньні студэнцкіх стыпендыяў у ВНУ, а таксама надбавак за посьпехі ў вучобе, грамадзкай і навуковай працы,




Фота Ул. Кармилкина

*„Мы выйдзем шчыльнымі радамі..."*

у разьмеркаваньні матэрыяльнай дапамогі і такім чынам уплываць на „палітычную дабранадзейнасьць" студэнтаў.

*3 кастрычніка*, як паведаміла газэта *„Имя"*, на сакратара Магілёўскай маладзёжнай арганізацыі *„Грамадзянскі форум"* ***Валянціна Бекава***, студэнта, працягваюцца ганеньні з боку адміністрацыі універсытэта, якая вырашыла любым чынам пазбавіцца ад няўгоднага студэнта.

*3 кастрычніка* з інтэрвью газэце *„Имя"* галоўнага рэжысёра тэатра *„Вольная сцэна"* ***Валерыя Мазынскага*** стала вядома, што адзіны маладзёжны беларускамоўны тэатр ***„Вольная сцэна"*** пазбаўляецца памяшканьня з прычыны сваёй занадта вольнай пазыцыі ў рэпертуары тэатру. Так з двухмесячным перапынкам у тэатры адбылася прэм'ера п'есы *Б.Брэхта „Узьлёт Артура Уі, які можна было спыніць"*, папярэдне забароненай Міністэрствам культуры з-за яе антыдыктатарскага пафасу.

*9 кастрычніка* за распаўсюджваньне ўлётак на антылукашэнкаўскі мітынг 12 кастрычніка затрыманыя:

***Сяргей Міхальчук*** ( дастаўлены ў Фрунзенскі РАУС Менска, складзены пратакол за распаўсюджваньне матэрыялаў, *„выробленых з парушэньнем устаноўленага парадку і не маючых выпускных дадзеных")*;

***Усевалад Сіняк*** ( дастаўлены ў Фрунзенскі РАУС Менска, складзены пратакол за распаўсюджваньне матэрыялаў *„выробленых з парушэньнем устаноўленага парадку і не маючых выпускных дадзеных"*);

***Галіна Дзягілева*** — сябра Сойму БНФ (арыштаваная, складзены пратакол, абвінавачаная ў распаўсюджваньні у недазволеным месцы ўлётак без выходных дадзеных).

*10 і 11 кастрычніка* у Гародні ўладамі забароненыя *дзевяць пікетаў*, якія рыхтаваліся ў знак пратэсту *супраць антынароднай эканамічнай палітыкі рэжыму*. Пікеты рыхтавала *Гарадзенская гарадзкая арганізацыя БНФ*.

*10 і 25 кастрычніка* у *г.Масты* старшынём Мастоўскага райвыканкаму **А.Кісялёвым** забароненыя *пікеты*, якія меркавала арганізаваць мясцовая *рада БНФ*, пратэстуючы супраць пагаршэньня жыцьцёвага стану людзей.

*11 кастрычніка* затрыманы за распаўсюджваньне ўлётак, якія запрашалі на апазіцыйны мітынг, ***Зьміцер Касьпяровіч***, *вучань 9 класа*, завезены ў Савецкі РАУС Менска у аддзел па справах з непаўналетнімі, зьбіты, складзены пратакол, у якім яго абвінавацілі ў расклейцы ўлётак у недазволеным месцы.

*12 кастрычніка* адбылося шэсьце і мітынг ***„НЕ - *** *голаду і холаду"*, арганізаваны ***БНФ, Вольным прафсаюзам металістаў*** і ***Саюзам жанчынаў за адраджэньне Бацькаўшчыны***. Пасьля мітынгу былі затрыманыя:

***Аснагель, Бірукоў, Голубеў, Канавалаў, Шпілеўскі,*** якіх забралі, запісалі дадзеныя, адрасы і адпусьцілі.

*Схопленыя і адвезеныя ў РАУС Ленінскага раёну Менска:*

***Іван Ігаравіч Бокат;***

***Зьміцер Букатка*** — *непаўналетні*. Затрыманы, складзены пратакол, пагражалі пачаць крымінальную справу за падпал пудзілаў на мітынгавым хэпэнінгу, абвінавачваючы ў хуліганстве;

***Дудзін*** — *непаўналетні*, пры затрыманьні ў тралейбусе (каля чыгуначнага вакзалу) людзі ў цывільным зацягнулі яго у

адміністрацыйны будынак і моцна зьбілі, пасьля чаго адвезьлі ў Ленініскі РАУС Менска;

***Вадзім Кабанчук***— сябра *Маладога Фронту*, затрыманы на 72 гадзіны па артыкулу 119 „Падазрэньне на зьдзяйсьненьне злачынства". Пасьля прад'явілі абвінавачваньне па артыкулу 201 ч.2 „*злоснае хуліганства*" за ўдзел у шэсьці 10 сакавіка 1997 г. Увязьнены ў Менску ў сьледчай турме. Зьяўляецца ***вязьнем рэжыму***;

***Зьміцер Касьпяровіч*** — *вучань 9 класа, непаўналетні.* Затрыманы, складзены пратакол, перададзены ў камісію па справах непаўналетніх;

***М. Кашынскі***— *вучань 10 класа, непаўналетні.* Затрыманы, складзены пратакол, перададзены ў камісію па справах непаўналетніх;

***Алесь Мікус*** — *вучань 11 класа, непаўналетні,* затрыманы, складзены пратакол, перададзены ў камісію па справах непаўналетніх;

***Андрэй Пятроў***, студэнт — затрыманы, складзены пратакол;

***Павел Севярынец*** — *старшыня* ***Маладога Фронту*** — затрыманы, назаўтра аштрафаваны па фармулёўцы за дробнае хуліганства і парушэньне супрацьпажарнай бясьпекі. Суддзя **Зянкевіч**. Сьведкі — міліцыянты **Гаўрэнкоў, Касовіч, Ляўко**;

***Яўген Скочка*** — *сустаршыня* ***Маладога Фронту*** — затрыманы, аштрафаваны назаўтра па фармулёўцы за дробнае хуліганства і парушэньне супрацьпажарнай бясьпекі. Суддзя **Зянкевіч**. Сьведкі — міліцыянты **Гаўрэнкоў, Касовіч, Ляўко**.

*14 кастрычніка* ў „*Народнай Волі*" надрукаваны ліст ***А.Горбача*** з *Баранавічаў*, у якім ён паведамляе ў адмове яму дырэктаркай Дома грамадзянскіх абрадаў у г.Баранавічы *правесьці рэгістрацыю шлюба па-беларуску*.

*15 кастрычніка* ніжняя палата лукашэнкаўскага „парляманту" прыняла папраўкі ў Закон аб друку, якія даюць магчымасьць уладам расправіцца з незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі.

*17 кастрычніка* адбыліся суды ў памяшканьні суда Ленінскага раёна г.Менска над арганізатарамі шэсьця і мітынга „***НЕ – голаду і холаду***", які прайшоў 12 кастрычніка над сп.***Марынічам***, сп. ***Т. Ванінай*** (суддзя **Валевіч Л.**), ***Я. Калубовічам*** (суддзя **С.Хрыпач**). Усім траім прысуджаны штраф у памеры *30 млн.руб. кожнаму.*

*17 кастрычніка* — як паведаміла газэта „*Пагоня*"— у Гарадзенскім дзяржаўным медінстытуце вялікая аўдыторыя на першым паверсе, якая раней выкарыстоўвалася для выкладаньня там студэнтам беларускай мовы, аддадзеная пад штаб для лукашэнкаўскага патрыятычнага саюзу моладзі. У аўдыторыі тэрмінова зрабілі еўрарэмонт, а ***беларускую мову*** цяпер будуць выкладаць у малым непрыстасаваным памяшканьні на пятым паверсе.

*19 кастрычніка* адбылося шэсьце і мітынг, арганізаваны журналістамі ў абарону свабоды слова, супраць антыдэмакратычных паправак у Закон аб друку. *Каля сарака журналістаў* з завязанымі ратамі прайшлі па праспекту Ф.Скарыны ад Дома друку да Купалаўскага скверу, дзе і адбыўся мітынг, у якім узяло ўдзел каля паўтары тысячы чалавек.

*20 кастрычніка* працаўніца завода „Электроніка" ***Ала Грыбко*** абвясьціла галадоўку з эканамічнымі патрабаваньнямі. У рэшце ў падтрымку патрабаваньняў А.Грыбко забаставаў увесь завод. У выніку быў заменены дырэктар „Інтэгралу" і патрабаваньні забастоўшчыкаў выкананыя. Але міліцыя абвінаваціла А.Грыбко ў невыкананьні дэкрэта №5 прэзыдэнта і склала адпаведны пратакол. Слуханьне яе справы прызначана на 23 сьнежня ў судзе Кастрычніцкага раёна Менска.



Фота Ул. Карміліна

*Маладыя*

*20 кастрычніка* ***Юрась Лукашэвіч*** з Наваполацку папрасіў палітычны прытулак у ***Чэхіі.***

*21 кастрычніка* газэты „*Свабода*" і „*Народная Воля*" зьмясьцілі інтэрв'ю з вядомым у Беларусі старшынёй калгаса Старавойтавым, двойчы Героем сацпрацы, ветэранам вайны, якога А.Лукашэнка беззаконна адхіліў ад кіраваньня калгасам, а таксама адхіліў ад працы ягоную дачку, старшыню мясцовага банка, і двух ягоных зяцёў пасадзіў у турму.

*21 кастрычніка* выйшаў дэкрэт прэзыдэнта А.Лукашэнкі №21 „Пра неадкладныя меры па барацьбе з тэрарызмам ды іншымі асабліва небясьпечнымі гвалтоўнымі злачынствамі". Па ацэнках юрыстаў, гэтым дэкрэтам, па сутнасьці, у краіне ўводзіцца надзвычайнае становішча, а разуменьне пад тэрарызмам „*прымяненьне гвалту ці пагрозы гвалту ў мэтах парушэньня грамадзкай бясьпекі, дэстабілізацыі грамадзкага парадку, застрашэньня насельніцтва ці аказаньне ўзьдзеяньня на прыняцьце рашэньняў дзяржаўнымі органамі ці перашкоды палітычнай ды іншай грамадзкай дзейнасьці*" можа „падставіць" пад дэкрэт любое мерапрыемства, арганізаванае апазыцыяй.

*22 кастрычніка* ***Янку Абадоўскага*** (студэнта, актывіста *Маладога Фронту* з Магілёва) у 11.00 спынілі супрацоўнікі МУС, зацягнулі ў пад'езд жылога дому, абшукалі, забралі некалькі экзэмпляраў „*Маладзёвага Весьніку*", перапісалі ўсе візытныя карткі, якія былі ў яго, пагражалі за ўдзел у палітычнай дзейнасьці. Праз некалькі дзён яго выклікалі па месцы вучобы ў Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце і папярэдзілі, што яго чакае выключэньне з ВНУ за палітычную дзейнасьць.

*30 кастрычніка* ў Гарадзкім судзе Менска пачаўся суд над удзельнікамі масавых маніфэстацыяў вясной 1997г. ***Рыгорам Кійко, Аляксеем Бондаравым, Уладзімерам Лысковым, Сарокіным***. Усе яны абвінавачаныя па арт.186-3 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь ( арганізацыя ці ўдзел у масавых беспарадках; караецца зьняволеньнем да трох гадоў) і па арт.187-1 ч.2 (гвалт альбо пагроза гвалту ў дачыненьні да міліцыянта ці дружынніка; караецца зьняволеньнем да пяці гадоў).

*31 кастрычніка* рэдактара аддзела навінаў газэты „*Имя*" ***Алега Бябеніна*** *двое* цывільных на машыне „Фольксваген"

Фота Ул. Кармілкіна

*Пікет Народнага Фронту*

вывезьлі за Менск на 15-ы кіламетр, прыгразілі за працу ў незалежных СМІ, папярэдзілі, што ён не апошні з журналістаў, каго „выхоўваюць" такім чынам, атабралі 1,5 млн.беларускіх рублёў і 50 даляраў.

*31 кастрычніка* скончыў жыцьцё самагубствам намесьнік старшыні камісіі Вярхоўнага Савету па аграрных пытаньнях ***Вікенці Казлоўскі***, які пасьля таго, як паставіў подпіс пад зваротам за імпічмант прэзыдэнту А.Лукашэнку, уладамі быў пазбаўлены працы. Улады зламалі і давялі да сьмерці вядомага ў сваім раёне гаспадарніка і чалавека.

*У кастрычніку* працягваецца канфлікт у 82-й школе Менска паміж бацькамі дзяцей, якія вучацца ў беларускіх клясах і новай адміністрацыяй школы — дырэктарам **Л.Салахітдзінавай** і завучам пачатковых клясаў **А.Іеўлевай**, якія гвалтоўна, з ціскам на бацькоў першаклясьнікаў, перавялі навучаньне ў беларускамоўнай школе першых клясаў на расейскую мову. Вучні трэціх клясаў школы зьвярнуліся да бацькоў першаклясьнікаў з просьбаю не адлучаць іхніх дзяцей ад беларускай мовы.

*У кастрычніку* ў Бабруйску пад час расклейваньня ўлётак з сацыяльным зьместам арыштаваны сябра *БНФ* ***В.Качан***. Ён аштрафаваны на 750 тыс.рублёў. Старшыня *Гарадзкой арганізацыі БНФ* ***В.Сьвістуноў*** строга папярэджаны.

*У кастрычніку* выканкам *г.Бабруйска* забараніў *Гарадзкой арганізацыі БНФ* правядзеньне пікета ў абарону сацыяльных правоў грамадзян.

*У кастрычніку* улады Магілёўшчыны неаднаразова зрывалі правядзеньне пікетаў супраць сацыяльнай палітыкі уладаў.Правядзеньне пікетаў дазвалялася ў бязьлюдных месцах. Так у Глуску пікет дазволілі праводзіць на самай акраіне горада, амаль што ў полі, а ў Касьцюковічах месца для пікета вылучылі ў лесе, на паляне. („*Свабода*",— 4.11.97г.)

## ЛІСТАПАД

На пачатку лістапада ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя *Міжнароднай Фэдэрацыі Гэльсінскіх* камітэтаў, якая, акцэнтуючы сытуацыю ў Беларусі з правамі чалавека, засяродзіла ўвагу на абмежаваньні свабоды слова, друку і сходаў, абмежаваньні для працы незалежных прафсаюзаў, „*адсутнасьць права і магчымасьці мець незалежную адвакацкую абарону*", была падкрэсьлена нелігітымнасьць канстытуцыі 1996г., адсутнасьць сапраўднага падзелу ўладаў, залежнасьць судовай сыстэмы. „*Няма іншай краіны ў Эўропе,* — падкрэсьліў выканаўчы дырэктар ФГК ***Аарон Роўдс***, — *дзе ўплыў аднаго чалавека на грамадзтва такі моцны, як у Беларусі*". Камісія падкрэсьліла, што „*ёсьць агульнапрынятыя прынцыпы*




Фота Ул. Кармілкіна

*На вуліцы*

*захаваньня правоў чалавека, і сёньняшняя Беларусь не адпавядае гэтым прынцыпама".* („*Свабода*",— 5.11.97г.)

*2 лістапада* адбылося ўшанаваньне памяці продкаў *Дзяды*, арганізаванае *Беларускім Народным Фронтам* ды іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі. Акцыя мела характар абароны правоў чалавека на Беларусі ды антытаталітарны накірунак; асноўныя мерапрыемствы адбываліся ў месцах масавых расстрэлаў грамадзян у сталінскія часы: *у Курапатах, каля былога будынка КДБ, у Лошыцы, Парку Чалюскінцаў, на Менскіх гарадзкіх могілках.* Апошнім часам улады афіцыйнага Менска зноў у каторы раз спрабуюць перагледзець вынікі навуковых дасьледваньняў месца масавых злачынстваў у Курапатах, дзе, па меркаваньню навукоўцаў, у 30-я гады камуністамі было расстраляна каля 250 тысячаў чалавек. Гэты перагляд адпавядае агульнай канцэпцыі перагляду праўдзівай гісторыі Беларусі, скажэньню і зацісканьню аб'ектыўнай інфармацыі і права грамадзян Беларусі на аб'ектыўную інфармацыю.

Пад час Дзядоў была спроба міліцыі схапіць непаўналетняга ***Ц.Дранчука*** за бел-чырвона-белы значок, які той носіць. За праход людзей каля капліцы, ўстаноўленай каля былога будынку КДБ, заяўляльніку гэтага пікету старшыні рады БНФ Цэнтральнага раёна Менска ***В.Мурашку*** ў РАУСе Цэнтральнага раёна зроблены пагрозы і папярэджаньне.

*2 лістапада* на 9-м кіламетры шашы Гомель-Чарнігаў, каля пяцідзесяці чалавек сабраліся на паніхіду па нявінна забітых бальшавікамі гомельцах. У гэтым месцы ў 30-х гадах адбываліся масавыя расстрэлы. Аднак пад'ехала міліцыя, якая паспрабавала спыніць жалобную акцыю і затрымала аднаго з удзельнікаў, які трымаў нацыянальны беларускі сьцяг. („*Свабода*",— 4.11.97г.)

*5 лістапада* журналістка **Т. Сьмітка** заявіла, што супрацоўнікі Міністэрства унутраных справаў, праводзячы аператыўныя здымкі на мітынгах і масавых шэсьцях, уваходзяць у склад здымачных групаў дзяржаўнай тэлевізіі, таксама прадстаўляюцца супрацоўнікамі вядомых расейскіх тэлекампаніяў НТВ, ГРТ і г.д. („*Здравый смысл*",— 5.11.97г.)



***„Народ, ваш цар вам не врот"***
***Батлейка - 97***

*7 лістапада* ў Магілёве пад час сьвяткаваньня кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту сябры *Гарадзкой рады Беларускага Народнага Фронту* выйшлі на дэманстрацыю з двума транспарантамі, адзін зь якіх — ***„Фашызм-лукашызм — чума XX веку".*** Пасьля заканчэньня мітынгу на іх напалі людзі ў цывільным, супрацоўнікі МУС, і справакавалі бойку. У выніку шэсьць чалавек былі схопленыя і асуджаныя:

***Уладзімер Цурпанаў*** — рабочы, сябра *БНФ* — на 13 сутак арышту; абвясьціў галадоўку; у выніку моцнага аслабленьня арганізму тэрмін утрыманьня пад арыштам скарочаны да 10 сутак; трапіў у шпіталь;

***Сяргей Віктаравіч Абадоўскі*** — Старшыня *Магілёўскай рэгіянальнай арганізацыі свабодных прафсаюзаў* — 5 сутак арышту;

***Віктар Абрамовіч*** — сябра *БНФ* — 5 сутак арышту;

***Валеры Разумаў*** — мастак, сябра *БНФ* — 5 сутак арышту;

***Віталь Макаранка*** — журналіст, затрыманы;

***Янка Абадоўскі*** — студэнт, сябра *Маладога Фронту* — папярэджаньне.

*7 лістапада* ў Менску пад час сьвяткаваньня камуністамі бальшавіцкага перавароту за выкарыстаньне лёзунгу ***„НЕ — дыктатуры прэзыдэнта"*** былі затрыманыя: ***В.Шчукін*** (дэпутат Вярхоўнага Савета 13 скліканьня ад партыі камуністаў), ***В.Масьлюкоў*** (які дапамагаў В.Шчукіну трымаць лёзунг), ***А.Мазго*** (першы сакратар гаркаму партыі камуністаў), ***П.Кікель*** (сакратар гаркаму), ***А.Пазьнякоў*** (камсамолец), ***А.Казакоў*** (сакратар Маскоўскага райкаму ПКБ).

*12 лістапада* сто вядомых у Беларусі дзеячоў культуры, навукі, прафсаюзных дзеячоў і палітыкаў рознай арыентацыі падпісаліся пад тэкстам „*Хартыі-97*", якая канстатуе, што „*дзеяньні цяперашніх уладаў накіраваньня на зьнішчэньне неад'емных правоў і свабодаў чалавека*", адзначае, што „*разбураецца нацыянальная культура і школа, дыскрымінуецца беларуская мова*". „Хартыя" заклікае грамадзянаў Беларусі „*сумленна змагацца за свае правы і свабоды, за аднаўленьне дэмакратыі і законнасьці ў нашай краіне*".

*12 лістапада* газэта „*Свабода*" паведаміла, што ***Камітэт ААН па правах чалавека*** апублікаваў сваё заключэньне па дакладзе, прадстаўленым Рэспублікай Беларусь. У заключэньні кажацца, што сытуацыя з правамі чалавека ў краіне значна пагоршылася за апошнія пяць гадоў з часу разгляду папярэдняга дакладу ў 1992г.

*12 лістапада* пад час спробы сфатаграфаваць з вакна інтэрнату кавалькаду з міліцэйскіх машынаў і рэанімацыйнай машыны, якія прывезьлі ў шпіталь г.Клічава Магілёўскай вобласьці маці прэзыдэнцкага „заўхоза" І.Ціцянкова Ганну Ціцянкову, быў затрыманы АМОНам хірург-анестэзіёлаг гэтай бальніцы ***Аляксандар Казлоў***, пакой якога быў абшуканы двойчы, фотастужка засьвечаная, а самаго хірурга без тлумачэньняў высялілі з інтэрнату. („*Народная Воля*",— 15.11.97г.)

*14 лістапада* Менскі гарадзкі суд (суддзя **М.Самасейка**) асудзіў мастака ***Рыгора Кійко,*** фізіка ***Аляксандра Бондарава,*** геолага ***Уладзімера Лыско***, зваршчыка ***Аляксея Коваля***, геафізіка ***Анатоля Сарокіна*** за ўдзел у веснавых маніфэстацыях 1997г. *Р.Кійко і У.Лыско* асуджаныя на два гады прыцягненьня да абавязкавай працы пад наглядам міліцыі. *А.Бондараў, А.Коваль і А.Сарокін* асуджаныя на два гады папраўчых работ па асноўным месцы працы з вылікам 20 адсоткаў заробку.

Пад час суда адвакат асуджаных ***Надзея Дударава*** назвала гэтую справу „заказной" з боку адміністрацыі прэзыдэнта і абвінаваціла суддзю ў нерашучасьці і залежнасьці ад „заказчыка". Суддзя **М. Самасейка** ўзбудзіў супраць Н.Дударавай адміністрацыйную справу (раней супраць Н.Дударавй узбуджана і крымінальная справа таксама).

*17 лістапада* ***В.Шчукіну*** Менскі гарвыканкам як „злоснаму парушальніку правапарадку" адмовіў у выкананьні заяўкі на правядзеньне 23 лістапада шэсьця ад пл. Я.Коласа да Цэнтральнай плошчы і мітынгу з нагоды гадавіны лістападаўскага разгону А.Лукашэнкам парляманту краіны.

*17 лістапада* сьледчы пракуратуры Цэнтральнага раёна **Валянцін Магарыл** напісаў заяву ў пракуратуру, у якой ён абвінавачвае журналістку ***Ірыну Халіп*** у тым, што яна дала яму поўху ў ягоным кабінеце пры выкананьні ім службовых абавязкаў. Непасрэдныя сьведкі здарэньня адсутнічаюць, але ёсьць заявы супрацоўнікаў пракуратуры, якія, як быццам бы, чулі гук плескача і бачылі пачырванелы твар сьледчага. Нагадаем, што менавіта В.Магарыл вёў справу зьбіцьця супрацоўнікамі міліцыі пад час 2 красавіка 1997г. бацькі

І.Халіп і самой журналісткі, але безвынікова. І.Халіп упэўненая ў тым, што сьледчы спецыяньна „заваліў” гэтую справу.

*18 лістапада* газэта *„Известия”* паведаміла пра палітычную эмігрантку ў Фінляндыю зь Беларусі 18-гадовую ***Аліну Бельскую*** (сябра *Маладога Фронту*). Яна праходзіла як саўдзельніца па вядомай справе А.Шыдлоўскага і В.Лабковіча, якія трэці месяц сядзяць у вязьніцы быццам бы за росьпіс сьценаў у Стоўбцах антыпрэзыдэнцкімі надпісамі. А.Бельскую ў верасьні выклікалі ў Менскі КДБ на допыт, куды яна не пайшла, а зьехала напачатку ў Маскву, а затым, пры дапамозе рускага ПЭН-цэнтру, у Фінляндыю.

*19 лістапада* Менскі гарвыканкам разгледзеў заяўку Ю.Хадыкі і В.Сьвяцкай на правядзеньне шэсьця і мітынгу з нагоды гадавіны разгону А.Лукашэнкам беларускага парляманту. Беспадстаўна быў зьменены маршрут шэсьця і месца правядзеньня мітынгу. Заяўшчыкі зрабілі заяву, а адказнасьць за вынікі такой зьмены ўсклалі на гарвыканкам.

*19 лістапада* газэта *„Свабода”* паведаміла, што з 10 жніўня ў сьледчым ізалятары гарадзенскай турмы сядзіць вядомы беларускі бард ***Андрусь Мельнікаў.*** 10 жніўня ён быў затрыманы літоўскімі памежнікамі на беларуска-літоўскай мяжы і перададзены беларускаму боку. А.Мельнікаву прад'яўлена абвінавачваньне па артыкуле *80 КК* Рэспублікі Беларусь — незаконны пераход мяжы, які прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўленьня волі.

*23 лістапада* адбылося антылукашэнкаўскае шэсьце і мітынг супраць дыктатуры , у якім узялі ўдзел больш за пяць тысячаў чалавек. Такім чынам *Народны Фронт* адзначыў гадавіну антыканстытуцыйнага перавароту. Пад час мітынгу было спалена пудзіла дыктатуры. Пасьля мітынгу быў арыштаваны дэпутат ВС В.Шчукін і адвезены ў Цэнтральны РАУС, дзе яго абвінавацілі ў парушэньні дэкрэта №5 і склалі пратакол.

Пасьля мітынгу міліцыяй быў схоплены актывіст *БНФ Ігар Лазарчук*, у якога канфіскавалі ўлёткі і на працягу 5 гадзінаў трымалі ў міліцыі, затым склалі пратакол.

На працягу наступных дзён пратаколы аб парушэньні лукашэнкаўскага дэкрэту №5 складзеныя на намесьніка старшыні *БНФ „Адраджэньне”* ***Ю.Хадыку***, дэпутата ***Л.Гразнову***, старшыню Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная Грамада” ***М. Статкевіча***, адказнага сакратара *Управы БНФ „Адраджэньне”* ***В.Сіўчыка.***

*24 лістапада* Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя **М.Клімянкова**) прыняў рашэньне спыніць выданьне газэты *„Свабода”*, найбуйнейшай апазыцыйнай газэты ў Беларусі. Судовы працэс цягнуўся 15 хвілінаў, вынік яго, па сьцьвярджэньню рэдактара *„Свабоды”* ***І.Герменчука***, быў прадвызначаны згары.

*25 лістапада* ў апошнім нумары газэта „Свабода” паведамляе, што на чыгуначным вакзале ў Гародні беларускімі памежнікамі быў затрыманы **галандцкі** журналіст ***Марсэль Мале***, які сфатаграфаваў прапускную клетку, якая знаходзілася каля касы. Фатастужку сканфіскавалі і вярнулі толькі пасьля разьбіральніцтва з пасярэдніцтвам прадстаўнікоў грамадзкасьці. Памежнікі параілі журналісту „не шукаць у нас дрэннага”.

*26 лістапада* дэпутат ВС 13 скліканьня ***Валеры Шчукін*** у знак пратэсту супраць закрыцьця газэты *„Свабода”* прайшоўся па праспэкце Ф.Скарыны ад пл.Я.Коласа да пл.Незалежнасьці ў белай майцы, апранутай паверх чорнага плашча, на якой былі наклеены надпісы „Свабода” і выразаны з газэты артыкул пра закрыцьцё гэтага выданьня. (*„Народная Воля”*,— 28.11.97г.)

*27 лістапада* у г.*Ганцавічы* Берасьцейскай вобласьці насупраць райвыканкаму на пл.Леніна пачаў *пікет* і *сухую* галадоўку актывіст *БНФ „Адраджэньне”* ***Мікалай Мікалаевіч Занька,*** 1947г.н., бацька траіх дзяцей. Пікет і сухая галадоўка былі распачатыя ў знак пратэсту супраць ўтрыманьня ў СІЗА *В.Лабковіча, А.Шыдлоўскага і В.Кабанчука,* а таксама закрыцьця газэты *„Свабода”*. Юрыст райвыканкаму **Туравец** адмовіў прыняць заяву на правядзеньне пікету. У знак пратэсту супраць такога праізволу М.Заньнка і абвясьціў галадоўку. У той самы дзень ён быў арыштаваны міліцыяй і на яго складзены пратакол аб парушэньні дэкрэту №5. *28.11.97г.* Ганцавіцкім судом ён быў асуджаны на 10 сутак арышту (сьведка — старшыня райвыканкаму **І.Стальмашонак**).

М.Занька чацьвёра сутак трымаў сухую галадоўку, і толькі пасьля звароту да яго кіраўніцтва *БНФ "Адраджэньне"* з просьбаю прыпыніць сухую галадоўку пачаў ужываць ваду, *але галадоўку працягнуў.*

Цынічна павялі сябе раённыя ўлады. Начальнік міліцыі **Крысюк** сказаў, што калі ён сам выбраў сабе такі шлях, дык няхай памірае, а галоўны ўрач райбальніцы папярэдзіў М.Заньку, што калі ў выніку галадоўкі той пашкодзіць свайму здароўю, дык лячыць яго ня будзе.

*28 лістапада* газэта *„Народная Воля”* паведаміла, што ***маці Вадзіма Кабанчука***, аднаго з палітвязьняў, зьвярнулася ў Гэльсінскі камітэт са скаргаю на ўмовы ўтрыманьня ў сьледчым ізалятары свайго сына, які мае шэраг захворваньняў. Работнікі СІЗА адмовілі ёй у перадачы медыкамэнтаў.

У канцы лістапада пад час выступленьняў беларускіх літаратараў у Віцебску *народнаму паэту Беларусі* ***Рыгору Барадуліну*** адміністрацыя Мединстытута забараніла выступаць перад студэнтамі.

У канцы лістапада *16-гадовага* ***Вадзіма Лабковіча*** — аднаго з вязьняў сумленьня — на два месяцы пазбавілі перадачаў.

У лістападзе за распаўсюджваньне газэты *„Рабочий”* міліцыяй папярэджаны старшыня *Гарадзкой Рады БНФ* ***В.Сьвізуноў.***

**Дадатак за 1996 год.**

Адміністрацыйная камісія Маладэчанскага гарвыканкаму *21 лістапада 1996г.* аштрафавала ***Ігара Мікалаевіча Глябца*** на 500тыс. за расклейку *„лістоў антыпрэзыдэнцкага зьместу”*.

**Дадатак за 1997 год.**

*25 сакавіка* ў Маладзечна ля помніка *„Пакутнікам за незалежнасьць Беларусі*” адбылося ўскладаньне кветак і падняцьце нацыянальных сьцягоў. Былі арыштаваныя:

***Андрэй Буслаўскі, Іван Гайковіч, Аляксандар Шафаловіч і Сяргей Юркевіч*** . Усе чацьвёра былі асуджаныя на трое сутак арышту (суддзя **Казлоў**).

***Матэрыялы падрыхтаваў Алесь БЯЛЯЦКІ***

# ДЫКТАТУРА І СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

У трэцім нумары *„Беларускіх Ведамасьцяў”* мы паведамлялі аб тым, як 2 красавіка супрацоўнікі Першамайскага аддзяленьня міліцыі Менска маёр **Станілевіч** і старшына **Чарнабай жорстка зьбілі 17-гадовую *Жэню Мітраеву.* Бацька Жэні** Уладзімер Мітраеў падаў заяву ў пракуратуру аб тым, што міліцыя пакалечыла яго дачку. Была ўзбуджана крымінальная справа. З таго часу супрацоўнікі праваахоўных органаў угаворвалі і пагражалі сям'і Мітраевых, патрабавалі забраць іхную заяву. Журналістка радыё *„Свабода”* Галіна Прыгара патэлефанавала ў Менск да Мітраевых, каб даведацца, як вядзецца сьледства, якія ягоныя вынікі. Размова адбылася з маці Жэні Тацьцянай Канстанцінаўнай.

Г.П. — Як скончылася сьледства па вашаму зыску?

Т.К. — Аніяк. Справу закрылі за адсутнасьцю віны тых, хто яе выконваў.

Г.П. — Значыць, сьледства было праведзена і сьледства ўстанавіла, што міліцыянты не вінаватыя, што яны яе ня білі?

Т.К. — Так.

Г.П. — У вас жа былі нейкія медыцынскія даведкі?

Т.К. — І зараз ёсьць. Сьледчаму мы ўсё гэта паказалі. Ён нават наведваў Жэню ў шпіталі і пасьля шпіталя тут, дома, дапрошваў.

Г.П. — Калі Вам паведамілі, што справа закрыта?

Т.К. — Тады, калі мы самі пацікавіліся. Яны забыліся нам аб гэтым паведаміць, і муж ужо сам цікавіўся. „Так, справа закрыта. Міліцыянты дзейнічалі ў межах закону. Гэта выпадковасьць, а не перавышэньне ўлады,"— вось усё, што нам сказалі.

Г.П. — Як Жэня сябе зараз пачувае?

Т.К. — Увогуле нядрэнна. Адзінае, што на кожную перамену надвор'я баліць нага і яна даволі хутка стамляецца. Яе зараз вызвалілі ад фізкультуры, далі лячэбную групу, таму што ні пабегаць, ні нахіляцца ёй пакуль нельга. Адзіная нашая радасьць, што хоць зрок застаўся ў норме. Мы баяліся, што са зрокам будзе дрэнна. Але са зрокам, на шчасьце, абыйшлося...

***(Па матэрыялах беларускай рэдакцыі радыё „Свабода", 28 кастрычніка 1997)***

## „СВАБОДА" ЁСЬЦЬ? СВАБОДЫ — НЯМА.

24 лістапада праз гаспадарчы суд рэжым Лукашэнкі зачыніў газэту *„Свабода"*. „Працэс" доўжыўся 15 хвілін. Зачыненьне *„Свабоды"* ёсьць вынік узрастаньня значэньня, пашырэньня і папулярнасьці гэтай газэты ў Беларусі. Акупацыйную дыктатуру ў краіне стварылі прафэсіяналы (у першую чаргу спэцслужбы ФСБ-КДБ). Яны не зачынялі *„Свабоду"* дагэтуль, бо гэта быў для іх важны канал інфармацыі і зьвестак пра становішча ў асяроддзі тых, з кім яны змагаюцца. Прыходзілася цярпець і крытыку, бо інакш на здабыцьцё інфармацыі, дасьледваньні, аналіз, агентуру пайшло б значна больш сродкаў, чым было шкоды рэжыму ад газэты. Але ў гэтым годзе *„Свабода"* перайшла мяжу цярпімасьці (ці бо — шкоднасьці для дыктатуры) і газэту зачынілі.

***П.ЗЯНЮК***

## „СВАБОДА" У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ.

Зачыненьне газэты *„Свабода"* выклікала абурэньне і пратэсты ва ўсім сьвеце, асабліва ў асяроддзі беларусаў за мяжой. Пра злосны факт закрыцьця *„Свабоды"* ўспамінаюць у сваім лісьце ў АБСЭ Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла і Старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Абурэньне выказалі на сходзе ўдзельнікі нью-ёрскай арганізацыі *„Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня"* і прынялі рашэньне інфармаваць пра гэты грубы ўчынак рэжыму Лукашэнкі амэрыканскія парляманцкія, урадавыя і грамадзкія арганізацыі.

З асобным зваротам выступілі сустаршыні Кааліцыі дзеля Абароны Свабоды і Правоў чалавека ў Беларусі Алекс Сільвановіч і Янка Запруднік, дзе адзначылі, што „ў Беларусі адбываецца рост таталітарызму", які падтрымліваюць чырвона-карычневыя ў Расеі. Тут ёсьць пагроза дэмакратыі ва Усходняй Эўропе. „Мы зьвяртаемся дзеля гэтага да ўсіх, каму дарагі міжнародны мір, — пішуць аўтары звароту, — прыйсьці на дапамогу загрожанай свабодзе ў Рэспубліцы Беларусь."

***А.М.***

## СОЙМ ЗАНЕПАКОЕНЫ РЭПРЭСІЯМІ РЭЖЫМУ

Сойм *Народнага Фронту* выступіў у абарону ***Вадзіма Лабковіча, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Кабанчука.*** „Чарговы подлы ўдар,— гаворыцца ў звароце,— дыктатура Лукашэнкі накіравала супраць беларускай моладзі, нязгоднай з рэжымам". Маладым вязьням пагражаюць карай да пяці гадоў турэмнага зьняволеньня. Аднак *Фронт* заклікае „не баяцца пагрозаў і рэпрэсіяў дыктатарскага рэжыму, маральна і матэрыяльна дапамагаць вязьням сумленьня ды іхным сем'ям. Прыйдзе час, калі арганізатары і ўдзельнікі рэпрэсіяў будуць пакараныя."

***М.В.***

## АБ ЛІКВІДАЦЫІ РЭЖЫМУ

7 лістапада Сойм *БНФ* прыняў адмысловую заяву *„Аб захадах дзеля ліквідацыі марыянэткавага дыктатарскага рэжыму ў Беларусі"*. У заяве адзначана, што „імпэрскія сілы Расеі, перад усім кляны спэцслужбаў, палітычныя мэты якіх выконвае А.Лукашэнка, імкнуцца прывесьці дыктатара да прэзыдэнцкай улады ў Крамлі, каб распачаць узнаўленьне імпэрыі. Беларусь фактычна становіцца цэнтрам падрыхтоўкі чырвона-карычневага перавароту ў Расеі. Магчымы доступ дыктатара А.Лукашэнкі да ядзернай „кнопкі" Расеі нясе небясьпеку ўсяму сьвету і пагражае існаваньню чалавечай цывілізацыі.

У гэтай сытуацыі *Беларускі Народны Фронт* ставіць наступныя мэты:

*1. Аднавіць, адстаяць і ўмацаваць незалежнасьць Беларусі;*

*2. Спыніць намаганьні расейскіх палітыкаў і спэцслужбаў узнавіць імпэрыю з выкарыстаньнем Беларусі як пляцдарму; тым самым прадухіліць прыход да ўлады ў Расеі і доступ да расейскай ядзернай кнопкі А.Лукашэнкі;*

3. *Стварыць умовы вяртаньня Беларусі ў канстытуцыйнае поле і для ейнага ўваходу ў эўрапейскія інстытуты.*

Першачарговая задача *БНФ* — дасягненьне адстаўкі антынароднага, антыбеларускага рэжыму А.Лукашэнкі, поўнамаштабнае ўзнаўленьне дэмакратычных інстытутаў у Рэспубліцы Беларусь. *Народны Фронт* фармуе каардынацыйны цэнтр дзеля аб'яднаньня незалежніцкіх дэмакратычных сілаў у забесьпячэньні адстаўкі дыктатара."

Сойм адзначыў умовы, пры выкананьні якіх ён мог бы падтрымаць Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Гэта перш за ўсё адстойваньне незалежнасьці Беларусі, ліквідацыя прэзыдэнцкай формы кіраваньня, дэмакратызацыя выбарчай сістэмы і правядзеньне дэмакратычных выбараў у парлямант пад міжнародным кантролем пасьля адхіленьня дыктатара ад улады.

***Т.Р.***

## ПРАСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Напрыканцы кастрычніка Старшыня *БНФ* ***Зянон Пазьняк*** і сябра Сойму *БНФ* ***Сяргей Навумчык*** правялі шэраг палітычных спатканьняў у Празе.

На сустрэчы з кіраўніком адміністрацыі Прэзыдэнта ***Іванам Мэдэкам*** было ўзьнята пытаньне палітычных уцекачоў зь

Беларусі, якія ўжо зьявіліся ў Чэхіі. Некаторым зь іх чэскі ўрад ужо прадставіў палітычны прытулак. Спадар Мэдэк выказаў заклапочанасьць узмацненьнем дыктатуры ў Беларусі, заявіўшы, што гэта можа стварыць няпростую сытуацыю ва ўсходнеэўрапейскім рэгіёне.

Зь дзеячамі *БНФ* спаткаўся й кіраўнік Сэнату ***Пэтэр Підгард***, які, паводле Канстытуцыі, зьяўляецца другой асобаю ў дзяржаве. Зь ім было дамоўлена пра арганізацыю мэханізму ўплыву на менскі рэжым праз эўрапейскія парляманцкія дэлегацыі, асабліва ў справе, што тычацца дыскрымінацыі беларусаў па нацыянальнай прыкмеце. Гэтая ж праблема закраналася й на спатканьні з прадстаўнікамі Міністэрства замежных справаў.

Пад час свайго знаходжаньня ў Празе Зянон Пазьняк даў шэраг інтэрв'ю газэтам, выступіў у праграме першага каналу чэскай тэлевізіі, дзе, акрамя яго, браў ўдзел міністар працы Чэхіі. Штотыднёвік „Рэспэкт" прысьвяціў Беларусі адмысловы выпуск, надрукаваўшы, паміж іншым, урывак з забароненай у Беларусі новай кнігі ***Васіля Быкава*** й інтэрв'ю зь ***Зянонам Пазьняком***.

Паводле словаў Пазьняка, у адрозьненьне ад леташніх чэскіх спатканьняў, цяперашнія сустрэчы выявілі значна вышэйшую ступень разуменьня чэскімі палітыкамі той небясьпекі, якую нясе рэжым Лукашэнкі для эўрапейскай і міжнароднай супольнасьці.

***Г.П.***

# ТРЫ ГАДЫ З ПРЭЗЫДЭНТАМ. ШТО МЫ АТРЫМАЛІ?

Урадавыя сродкі масавай інфармацыі інтэнсыўна праз міністраў і іншых кіраўнікоў „вертыкалі" пераконваюць нас, што са зьяўленьнем прэзыдэнта і яго вертыкалі ў Беларусі ледзь ці не настала эра ўсеагульнага дабрабыту. Ня буду ўнікаць у маральныя аспэкты гэтага масавага цынізму. Хацелася б толькі задаць адно пытаньне ўсім удзельнікам гэтага працэсу: наколькі лепш вы сталі жыць на сваю, нават міністэрскую зарплату? Ці вы купляеце ўсё ў асобых крамах?

Бо ўсё, пра што вы рапартуеце ў сваіх бадзёрых інтэрв'ю, — адкрытая хлусьня.

Пачнем па парадку. Справаздачы Міністэрства статыстыкі і даклады Лукашэнкі А.Р. пачынаюцца з інфармацыі аб 10 адсотках росту валавага ўнутранага прадукту. Аднак у тых жа справаздачах гаворыцца, што дабаўленая вартасьць узрасла ў прамысловасьці на 13 адсоткаў, у сельскай гаспадарцы — на 6 адсоткаў, у будаўніцтве — на 22 адсоткі. Сярэднеўзважаная велічыня складае каля 16 адсоткаў. А гэта азначае, што замест павелічэньня вытворчасьці прадукцыі ў сапраўднасьці адбыўся чарговы спад на 6 адсоткаў. У чым мы лёгка можам пераканацца, калі наведаем нашы крамы і рынкі. Тут усё менш і менш можна ўбачыць тавараў айчыннай вытворчасьці.

Не хацелася б і далей улазіць у гэтую непрыстойную дыскусію, але дзеля справядлівасьці варта прывесьці яшчэ некалькі фактаў, дзе прыпіскі немагчымыя. Адзін зь іх — зьнешні гандль. За чатыры месяцы бягучага году адмоўны балянс тут дасягнуў 704 млн. даляраў ЗША. Гэта велізарны доўг. Ён складае прыкладна адну чвэрць даходнай часткі бюджэту. Прычым тэмпы росту яго рэзка павялічваюцца. Да гадавога дэфіцыту мінулага году чатырохмесячны доўг гэтага году складаў ужо 42 адсоткі.

Другі неабвержны фактар — невыкананьне даходнай часткі бюджэту. Прыкладна кожны дзясяты рубель з заплянаваных у скарб не прыходзіць. Знацыцца пераходзіць у разрад хранічных хваробаў затрымкі з выплатай нашых мізэрных зарплатаў і пэнсіяў. Прыкладна паўмільёну працуючым і двумстам тысячам пэнсіянераў прыдзецца ўсё даўжэй чакаць пэнсіяў і зарплаты.

Трэці фактар — даўгі прадпрыемстваў. Кошт валавага ўнутранага прадукту за 4 месяцы бягучага 1997 году (85641 млрд. руб.) ніжэйшы за даўгі прадпрыемстваў на 7,6%. Гэта значыць, што мы працягваем „праядаць" накоплены раней здабытак.

Чацьвёрты фактар — эканамічны стан прадпрыемстваў. На канец 1-га паўгоддзя амаль адна трацiна прамысловых прадпрыемстваў і каля 80 адсоткаў калгасаў і саўгасаў стратныя. Пэрспэктываў ператварэньня іх у рэнтабельныя пры цяперашнім „рынкавым сацыялізме" няма. Значыцца іхняя бліжэйшая пэрспэктыва — банкруцтва. У выніку можа апынуцца выкінутым на вуліцу кожны трэці працаздольны грамадзянін Рэспублікі Беларусь.

Цяпер хацеў бы перайсьці да праблемы штодзённага хлеба. Праблема забесьпячэньня насельніцтва робіцца ўсё вастрэйшай. Толькі поўнае безграшоўе людзей трохі зьмякчае яе. Пры ўсіх гучных рапартах сельская гаспадарка прадаўжае валіцца. Праўда, тэмпы падзеньня трошкі запавольваюцца ў сувязі з набліжэньнем нулявой адзнакі, за якой настане поўны калапс. Я даўно папярэджваў аб пагрозьлівай бядзе. Цяпер яна ўжо стаіць каля нашага парогу. За час прэзыдэнцкага кіраваньня Беларусь страціла пяцьсот шэсьць тысячаў галоў рагатай жывёлы, пяцьсот восем тысячаў сьвіней, амаль усё пагалоўе авечак, каля паловы коней. Гэта амаль столькі, колькі было да пачатку прэзыдэнцкага кіраваньня ўсяго быдла ў Магілёўскай вобласьці. Калі ўлічыць страту прадуктыўнасьці жывёлы з-за недакорму, то зусім зразумелы жабрацкі, небывалы для Беларусі і ў яе гісторыі ўзровень забесьпячэньня насельніцтва прадуктамі харчаваньня. Калі ў 1990 годзе сельская гаспадарка выдавала ў разьліку на душу насельніцтва 729 кг. малака, 116 кг. мяса, 838 кг. зерня, больш за 1100 кг. бульбы, то ў 1996 годзе засталося каля 247 кг. малака, 31 кг. мяса, каля 540 кг, зерня, менш за 700 кг. бульбы. Па вытворчасьці мяса мы наблізіліся да Кітая, вопыт якога ўзмоцнена асвойвае адміністрацыя Лукашэнкі. Там у 1996 годзе спажывалі на кожнага жыхара ўсяго мяса, уключаючы насякомых і рэптылій, каля 26 кг.

Пэрспэктывы ў сельскай гаспадарцы, як і ў іншых галінах народнай гаспадаркі, беспэрспэктыўныя. Пра гэта сьведчыць дзяржаўная палітыка, што ажыцьцяўляецца Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчаваньня. У гады сталінскіх рэпрэсіяў яна, напэўна , атрымала б статус „варожай" з адпаведнымі наступствамі для аўтараў. Вось некалькі прыкладаў, калі Міністэрства наносьць велізарную страту галіне і грамадзтву. Любому дылетанту вядома, што не прадаўшы прадукцыю, не атрымаеш грошай і не зможаш дзейнічаць далей. Аднак гэта незразумела Мінсельгаспраду. Сёньня практычна забаронена ўсім гаспадаркам прадаваць сваю прадукцыю за грошы. Асабліва ад гэтага пакутуюць птушкагадоўля і прамысловая сьвінагадоўля. Гэтыя галіны ствараліся ў нас у разьліку на пастаўкі расейскага і казахстанскага зерня. Сёньня бясплатна ніхто яго не дае. Трэба купіць. А ў скарбе няма грошай. Валютны запас набліжаецца да нуля. Здавалася б, ёсьць простае рашэньне: прадаць прадукцыю жывёлаводзтва ў Расею і за вырučаныя грошы купіць зерне*.

Другі прыклад. Пры поўнай адсутнасьці валюты, здавалася б, безвалютныя апэрацыі павінны атрымаць самае шырокае распаўсюджаньне. Але не ў нас. У канцы зімы ў расейскіх

партнёраў узьнікла вялікая патрэба ў жытняй муцэ. Узамен у Рэспубліку Беларусь пастаўлялася дэфіцытная для нас харчовая і кармавая пшаніца па тэндарных цэнах. Згодна афіцыйнай справаздачнасьці ў Беларусі было нарыхтавана ў 1996 годзе больш 1,7 млн.тон жыта. Дзяржава закупіла толькі 940 тыс.тон. Астатняе жыта можна было выгадна прадаць у Расею па цане парадку 140 даляраў за тону. Але той жа Мінсельгаспрад паставіў на гэтай магчымасьці тлусты крыж.

Можна яшчэ нямала прывесьці падобных прыкладаў, якія пацьвярджаюць поўную недзеяздольнасьць органаў дзяржаўнага кіраўніцтва.

Асобна хацелася б спыніцца на беспрэцэдэнтным росьце цэнаў за перыяд кіраваньня А.Лукашэнкі. Бо гэта галоўнае, што датычыць кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь — ці гэта пэнсіянер, ці дыктар тэлебачаньня, ці „вертыкальшчык". Вядома, прыбытак у гэтых катэгорыяў грамадзянаў розны. Але ёсьць адно агульнае — цэны. Іхняя трансфармацыя за апошнія тры гады ня мае лягічнага ўспрыняцьця. Нагадаю толькі некаторыя факты. Са жніўня 1994 года па ліпень 1997 года кошт 1 кг. ялавічыны павялічыўся ў 28 разоў, сьвініны амаль у 37 разоў, варанай каўбасы ў 23 разы, яек у 25,6 разоў, хлеба ў 39 разоў і г.д.

Прычын гэтага шмат. Адна зь іх, што перайшла разам з ідэалёгіяй ад В.Кебіча, — непрыдатная падаткавая сістэма, якая выклікала росты цэнаў у 2,1 - 2,6 разоў. Але і рэжым Лукашэнкі праз кішэнны так званы „парлямант" унёс свой уклад у далейшае рабаўніцтва паўжабрацкага насельніцтва, даўшы права на паборы мясцовым уладам. Чым яны не прамарудзілі скарыстацца. У бягучым годзе менчукі атрымалі на свае плечы цэлых шэсьць пабораў. „Збор з дробнарознічнага гандлю", „транспартны збор", „збор за паслугі", „падатак на продаж", „збор за карыстаньне месцам паркоўкі аўтатранспарту" і „збор з уласьнікаў сабак". Прычым, стаўкі па кожным зь іх не маленькія. Усе гэтыя зборы напрасткі альбо ўскосна ўключаюцца ў цану тавару. Гэта яны ў многім справакавалі рост цэнаў за апошнія тры месяцы.

Сумнавядомае беларуска-расейскае мытнае пагадненьне павялічыла цэны на ўвесь імпарт. За кошт увядзеньня 15 адсоткаў мытнай пошліны, 20%-га падатку на дабаўленую вартасьць і акцызаў усе імпартныя тавары адным махам падаражэлі ў 1,6 – 2,2 разы. Улічваючы асаблівасьць беларускай экономікі, прамысловасьці, што працуе па прынцыпу „зборачнага цэху", адсутнасьць уласнай вытворчасьці многіх відаў прадукцыі, уключаючы рыбу, медыцынскія лекі, хімічныя рэчывы і іншыя, адзначана ўласна ў цане і айчынная прадукцыя.

Далей без тлумачэньня прычынаў урад у верасьні 1996 года павялічыў цану на імпартуемую прадукцыю ў 1,5 раза і абмежаваў яе набор у гандлёвых кропках 25 адсоткамі. Прайшоўшы праз нашу падаткавую сістэму, гэты крок яшчэ раз павялічыў цэны ў 1,6 – 2,2 разы.

Лютаўскі дэкрэт прэзыдэнта „Аб увядзеньні мытных плацяжоў на цукар і алей з Украіны" прывёў да падваеньня цэнаў на гэтую прадукцыю на беларускім рынку.

Прэзыдэнт сваімі ўказамі поўнасьцю паралізаваў індывідуальны сэктар. Перарэгістрацыі не прайшлі больш за 70% прыватных фірмаў і індывідуальных прадпрыймальнікаў. Спытаем: хто ж будзе плаціць падаткі? Ды і тыя, хто лічыцца ў дабрапрыстойных, маюць вялікія даўгі. Дэбіторская запазычанасьць дзяржпрадпрыемстваў за 1-ы квартал 1997 года перавышала 92,5 трлн.рублёў, а валавы ўнутраны прадукт за гэты час складаў усяго 85,6 трлн.рублёў. Гэта значыць, мы прадаўжаем праядаць свой накоплены патэнцыял. Напрыклад, у аграпрамысловым сэктары Беларусі на 1-га студзеня 1991 года мелася ўсіх фондаў эквівалентна 35,7 мільярдаў даляраў ЗША. На пачатак бягучага года засталося каля 4,8 мільярда даляраў ЗША. Гэта забойчы факт.

Нельга не адзначыць нерацыянальнае зрасходваньне бюджэтных сродкаў. За першы квартал 1997г. ўтрыманьне сілавых структураў і дзяржапарата пайшло 11,7% расходнай часткі бюджэту, а на ўсе эканамічныя праграмы — 14,3%. Адкуль жа будуць лекі і медэкаменты?

Увогуле можна канстатаваць, што збыўся мой прагноз, які я рабіў у „Беларускай Ніве" ў канцы 1994 года. Беларусь, выбраўшы прэзыдэнтам А.Лукашэнку, сама ўпіхнула сябе ў нацыянальную бяду.

Дзе ж выхад? Яго трэба шукаць перш за ўсё ў палітычным рашэньні. Цяперашняе кіраўніцтва на чале з А.Лукашэнкам, якое складаецца з былой намэнклятуры КПСС, ня ў стане зрабіць што-небудзь карыснае. Гэта яны ўштурхнулі нядаўна дабрапрыстойную Беларусь у эканамічны хаос, а народ — у жабрацтва. Патрэбны прынцыпова новыя людзі ў кіраўніцтве краінай.

Пасьля гэтага неабходна кардынальная эканамічная рэформа, без усялякіх заклінаньняў пра нейкія міфічныя сувязі з былым СССР. Іх ніколі не было. Быў „яго вялікасьць Дзяржплян", які даводзіў заданьне кожнаму прадпрыемству — што рабіць. А куды падзець гэта — зробленае — нікому не было справы. Сёньня іншая сытуацыя. Галоўны „каардынатар" вытворчасьці — грошы. Калі ў цябе ёсьць грошы — купіш усё, што трэба. Няма грошай — ніякія заклінаньні і саюзы не дапамогуць. На жаль, гэтага ня можа зразумець значная частка насельніцтва старэйшага ўзросту. Аднак ілюзіі ніколі не дапамагалі справе.

***Іван НІКІТЧАНКА***
***прафэсар, член-карэспандэнт***
***АН Беларусі акадэмік МАІП***

***** *Праблема ўскладняецца тым, што ў Расеі няма грошай, няма чым плаціць. (Рэд.)*

# ДАКУМАНТЫ РАДЫ БНР

## *Мэмарандум*

*22-й Сэсіі Рады Беларускае Народнае* Рэспублікі:

***Аб дзейнасьці Рады Беларускае Народнае Рэспублікі***

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,* створаная дэмакратычнай воляй Беларускага Народу — носьбіт ідэі незалежнасьці і дэмакратычнага ладу ў Беларусі. Рада працягвае справу *Беларускае Народнае Рэспублікі,* падтрымлівае ажыцьцяўленьне прынцыпу дзяржаўнасьці і дэмакратыі Беларусі, адлюстраваныя ў устаўных граматах Рады *БНР* 1918 году.

*Рада БНР* лічыць утварэньне Рэспублікі Беларусь і замацаваньне ейнай дзяржаўнай незалежнасьці ў Канстытуцыі 1994 году этапам на шляху да ажыцьцяўленьня ідэалаў *БНР,* аб чым красамоўна засьведчылі прынятыя Вярхоўным Саветам 12-га скліканьня дзяржаўныя сымбалі: *бел-чырвона-белы сьцяг* і *гэрб Пагоня,* а таксама канстытуцыйнае ды заканадаўчае замацаваньне дзяржаўнасьці *беларускай мовы.*

*Рада БНР,* гэтак-жа як і дэмакратычныя дзяржавы Звходу, не прызнае незаконных лукашэнкаўскіх антыдэмакратычных структураў улады, створаных пасьля лістападаўскага перавароту 1996 году, ды асуджае прарасейскую акупацыйную

палітыку, скіраваную на ліквідацыю незалежнасьці Беларусі, на зьнішчэньне беларускай культуры, беларускай мовы і беларускай нацыі.

*Рада БНР* будзе рабіць усе крокі, каб прадухіліць пагрозу незалежнасьці беларускай дзяржавы і існаваньню беларускай нацыі. *Рада БНР* зьвяртае ўвагу дэмакратычных урадаў і палітыкаў заходняга сьвету на пагрозу, што ідзе вольным краінам Усходняй Эўропы ад прамаскоўскага рэжыму на Беларусі, які прапануе вярнуць у Беларуь расейскую ядзерную зброю.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997г.*

## *Заява*

*22-й Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі:*
***Аб становішчы ў Беларусі***

*Рада Беларускае Народнае Рэспублікі* з трывогай назірае за ўзмацненьнем рэпрэсійных дзеяньняў прамаскоўскага дыктатарскага рэжыму ў Беларусі, накіраваных супраць асноўных правоў чалавека, законнасьці, свабоды і беларускай культуры.Пад пагрозай апынулася ня толькі дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі, але і існаваньне беларускай нацыі. У Беларусі фактычна адноўлены бальшавіцкі акупацыйны рэжым, зачынены амаль усе беларускія школы, зьліквідавана нацыянальнае ўзгадаваньне моладзі, дыскрымінуецца на кожным кроку беларуская мова. Урад выдае распараджэньні аб адабраньні нярухомай маёмасьці беларускіх установаў і арганізацыяў, зачыняюць беларускія газэты і часопісы. Уведзена цэнзура на творы мастацтва, ліквідавана свабодная адвакатура. У судах і турмах пануе поўная самаволя ўрадавых функцыянераў. Прэзыдэнцкая рэпрэсійная машына адкрыта дыскрымінуе беларусаў. Самаволя ўладаў у канфрантацыі з журналістамі дайшла да таго, што пачалі завастрацца канфлікты паміж шматлікімі замежнымі сродкамі масавай інфармацыі ды ўрадам Лукашэнкі.

Тым часам эканамічны крызіс у Беларусі паглыбляецца ў выніку намаганьня ўраду трымаць усё пад сваім кантролем. Індэксацыя заработкаў і пэнсіяў не пасьпявае за інфляцыяй, якая ў першай палавіне гэтага году перавысіла 40 адсоткаў. Вартасьць беларускага рубля катастрафічна падае. Гандлёвы балянс рэспублікі пазначаны глыбокім дэфіцытам. Урад дарма намагаецца прыхаваць факт далейшага эканамічнага спаду маніпуляваньнем статыстыкі. Каб залатаць бюджэтныя дзіркі, урад рыхтуецца запушчаць ізноў у работу друкарскі станок на новую эмісію рублёў, якія яшчэ больш абясцэняць мізэрныя заработкі і пэнсіі.

Усе эканамісты, у тым ліку і ўрадавыя, прызнаюць, што адбудова беларускай эканомікі немагчымая без замежных інвэстыцыяў. Але інвэстыцыі не паплывуць у дзяржаву, якая не праводзіць рынычных рэформаў.

У выніку арыентацыі Лукашэнкі на сілавыя мэтады кіраваньня, за Беларусьсю ў сьвеце замацоўваецца імя паліцыйнае дзяржавы. Апошні з цэлае сэрыі рэдакцыйных артыкулаў вядучых заходніх органаў незалежнага друку, газэты *„Нью-Ёрк Таймс"* (25.08.1997), загалоўлены *„Расея і ейны тыранскі сусед"*. Гэта пра Беларусь пад кантролем прэзыдэнта-тырана. Зразумела, што з такою краінаю патэнцыяльныя заходнія інвэстары ня будуць наладжваць дзелавых сувязяў. Міжнародную ізаляванасьць Беларусі найлепш паказвае факт, што беларускі прэзыдэнт стаўся „невыездным" у дэмакратычныя дзяржавы. Ня хочуць і ў Беларусь ехаць ані заходнія турысты, ані бізнэсмэны. Культурны і навуковы абмен з Захадам зьведзены да мінімуму. Амаль спыніўся з замежных краін паток гуманітарнай дапамогі, бо галодны на валюту Менск наклаў сваю кантрольную руку і на гэтую дзялянку грамадзкай дзейнасьці.

Паліцыйны заціск свабоды паглыбляецца. Лукашэнкаў незаконны парлямант рыхтуецца цяпер прыняць папраўку да закону аб друку, які пашырыць яшчэ больш беззаконьне чыноўніцкага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі.

У сувязі з вышэй сказаным *Рада БНР* асуджае паліцыйны антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і заклікае беларускае ды міжнароднае грамадзтва да супрацьдзеяньня ягонай дыктатуры, да змаганьня за аднаўленьне дэмакратычнага ладу ў Беларусі.

*Рада БНР* падтрымлівае ўсе беларускія нацыянальна-вызвольныя сілы, што змагаюцца за дэмакратыю, незалежнасьць і эўрапейскі шлях разьвіцьця Беларусі.

*Рада БНР* заяўляе, што адзіны выхад з тупіковага палажэньня, у якім апынулася міжнародная ізаляваная Беларусь, гэта — адстаўка Лукашэнкі, зварот да Канстытуцыі 1994 году і правядзеньне свабодных парляманцкіх выбараў.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997г.*

## *Пастанова*

*Рады Беларускае Народнае Рэспублікі*
***Пра абарону самабытнага аблічча беларускае літаратурнае мовы***

Жывое бытаваньне і пэрспэктыва беларускае літаратурнае мовы на Бацькаўшчыне зноў апынуліся пад пагрозаю. Антыбеларускі рэжым пасьлядоўна выціскае беларускую мову з асноўных сфэраў ейнага функцыянаваньня: адукацыі, культуры, навукі, дзяржаўных органаў, прэсы, кнігадрукаваньня і г.д.

Падобна як сталінскі рэжым 1930-я гады, рэжым Лукашэнкі, адначасова зь перасьледам беларускае мовы наагул, робіць замах на ейную самабытнасьць. У 1933г. правапіс і граматыка беларускае літаратурнае мовы рашэньнем Саўнаркому БССР былі валюнтарыстычна зрэфармаваныя дзеля палітычнае мэты: набліжэньня беларускае мовы да расейскае. Вынішчаліся непаўторнае аблічча й нормы беларускае літаратурнае мовы, што сфармаваліся натуральным эвалюцыйным чынам на падставе народных гаворак і жывой практыкі ды былі ўладкаваныя Браніславам Тарашкевічам .

*Рада БНР*, ідучы за воляю свабоднага беларускага грамадзтва, не прызнала пастановы Саўнаркому БССР „Аб рэформе беларускага правапісу". Беларуская літаратурная мова пачала існаваць у двух правапісна-граматычных варыянтах: клясычным, што быў скадыфікаваны Б.Тарашкевічам і ягонымі наступнікамі, ды савецкімі, зрусыфікаваным.

На працягу апошняга дзесяцігодьдзя клясычная правапісна-граматычная традыцыя ня толькі адрадзілася на Бацькаўшчыне, але стала асноваю далейшага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы. Грамадзкія, культурныя арганізацыі, акадэмічныя колы выказаліся за перагляд пастановы Саўнаркому БССР 1933г. „Аб рэформе беларускага правапісу". Пастанова была ацэнена як палітычна тэндэнцыйная ў Выніковым дакуманце Дзяржаўнае камісіі па ўдакладненьні правапісу беларускае літаратурнае мовы ад 2 лютага 1994 году. Дзяржаўная камісія і правапісная камісія *Таварыства Беларускае Мовы* выпрацавалі прапановы, якія мелі на мэце ўніфікацыю зрусыфікаванага варыянту правапісу граматыкі з клясычным.

Аднак рэжым Лукашэнкі, пераймаючы ў нацыянальна-моўнай палітыцы рэжым Сталіна, абмяжоўвае ўжываньне беларускае літаратурнае мовы ў ейным, не скажоным рэформаю 1933г., правапісна-граматычным абліччы ды рыхтуе поўную забарону апошняга.

У сувязі з вышэй выкладзеным, грунтуючыся на дакумантах *Беларускага Навуковага Таварыства* ў Вільні (1933г.), *Таварыства Беларускае Мовы* і ягонае *Правапіснае камісіі* (1991-1994гг.), *Дзяржаўнае камісіі па ўдасканаленьні правапісу беларускае літаратурнае мовы* (1994г.), *камісіяў Беларускага Народнага Фронту па адукацыі і па культуры* (1989-1997гг.), Рада *БНР* пастанаўляе:

1. Лічыць клясычныя правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы, упарадкаваныя Б.Тарашкевічам і надалей кадыфікаваныя ў слоўніках на Бацькаўшчыне і на эміграцыі, нацыянальным здабыткам, які падлягае дзяржаўнай апецы і абароне.

2. Ужываць у дзяржаўнай чыннасьці *Рады БНР* вылучна клясычныя правапіс і граматыку беларускае літаратурнае мовы ды рэкамэндаваць іх да ўжытку ва ўсіх сфэрах функцыянаваньня мовы ў Беларусі.

3. Правесьці навукова-практычную канфэрэнцыю з мэтай удакладненьня нормаў правапісу і граматыкі беларускае літаратурнае мовы з улікам найноўшае моўнае практыкі.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997г.*

### *Рэзалюцыя*

*22-й Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі:*

***Аб этнічнай дыскрымінацыі беларусаў і слуханьнях у Кангрэсе ЗША аб пагвалтаваньні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь***

22-я сэсія *Рады БНР* зьвяртае ўвагу ўрадаў дзяржаваў сьвету і міжнародных арганізацыяў на масавую ліквідацыю беларускамоўных школаў у Беларусі, на шматлікія факты зьбіцьця і арыштаў грамадзянаў рэспублікі байцамі прэзыдэнцкіх спэцслужбаў толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Сэсія канстатуе наяўнасьць ня толькі маральнага, палітычнага, але і фізычнага перасьледу беларусаў на тэрыторыі Беларусі па нацыянальнай прыкмеце. Дзеля гэтага сэсія *Рады БНР* зьвяртаецца з прапановай да Кангрэсу Злучаных Штатаў Амэрыкі правесьці слуханьні аб фактах пагвалтаньня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997г.*

### *Рэзалюцыя*

*22-й Сэсіі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі:*

***Аб радыё „Свабода-Свабодная Эўропа" і беларускамоўных перадачах іншых заходніх радыястанцыяў***

22-я сэсія *Рады Беларускае Народнае Рэспублікі* ўважае, што пашырэньне вяшчаньня беларускай службы радыё „Свабода" ды запачаткаваньне беларускамоўных перадачаў *„Голасам Амэрыкі"* і радыёстанцыямі іншых заходніх дзяржаваў ва ўмовах поўнай манаполіі прэзыдэнта Лукашэнкі на электронныя сродкі масавай інфармацыі становіча паўплывае на лёс беларускай дэмакратыі.

*Нью-Брансвік, 31 жнівеня 1997г.*

## СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

***Ўканцы лістапада беларусы на Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце адзначаюць угодкі Слуцкага збройнага змаганьня супраць расейцаў-бальшавікоў. Сёлета споўнілася 77 гадоў з той пары, калі случакі выступілі са зброяй за Беларускую Народную Рэспубліку, нягледзячы на пачварна вялікія сілы бальшавікоў, бо чалавек павінен абараняць Радзіму.***

Увосень 1920г., калі Расея й Польша падпісалі замірэньне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы — Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну. Варта адзначыць, што Случчына была адной з найбагацейшых нацыянальна сьведамай беларускай правінцыяй. Тут традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызваленчага руху.

Гэты час міжуладзьдзя, калі палякі адступалі, а бальшавікі яшчэ не прыйшлі, беларускія дзеячы ў Слуцку выкарысталі для арганізацыі змаганьня за самастойную Беларусь, за ўсталяваньне ўлады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай 25 сакавіка 1918г.

14 лістапада 1920г. быў скліканы з'езд Случчыны, які выбраў часовы ўрад — *Раду Случчыны* на чале з ***Уладзімерам Пракулевічам.*** З'езд пастанавіў распачаць збройнае змаганьне супраць чужынцаў. Рада пачала ствараць вайсковыя фармаваньні, аб'явілі мабілізацыю, якая прайшла вельмі актыўна сярод насельніцтва *Слуцкага* павету — *Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава й іх ваколіцаў.* У кароткім часе сабралася блізу ***10.000*** чалавек. Беларускія жанчыны з Гародні прыслалі для случакоў сьцяг з прыгожа вышытаю *„Пагоняю"* і надпісам: *„Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына."*

Былі сфармаваныя два палкі: *1-шы Слуцкі полк* на чале з падпалкоўнікам ***Ахрэмам Гаўрыловічам*** *і 2-гі Грозаўскі полк* пад камандаю капітана ***Семянюка***, аб'яднаныя ў *Слуцкую брыгаду*, якую ўзначальваў ***Антон Сокал-Кутылоўскі.*** У сувязі з наступамі Чырвонай Арміі штаб паўстаньня быў перанесены са Слуцка ў Семежава.

27 лістапада пачаліся баі. Асабліва адчувальныя для бальшавікоў былі ўдары па лініі *Капыль — Цімкавічы — Вызна.* Супраць случакоў была кінутая Омская дывізія. Яны мужна змагаліся, іх шырока падтрымлівала насельніцтва, але сілы былі надта ж няроўныя. Пасьля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры вымушаны былі адыйсьці за раку Лань, дзе раззброеныя палякамі й зьмешчаныя ў сьпецыяльны лягер для інтэрнаваных асобаў.

Сярод найбольш актыўных удзельнікаў змаганьня былі ***Павал Жаўрыд, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў*** (аўтар ваяцкага марша *„Мы выйдзем шчыльнымі радамі")*, ***Васіль Русак, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Янка Біруковіч.*** Многія са змагароў вярнуліся пазьней у 20-х гадох на радзіму, паверыўшы ў магчымасьць адбудовы Беларускага гаспадарства пад бальшавікамі, але бязьлітасна зьнішчаныя ў часе сталінскіх рэпрэсіяў.

Падзеі 1920г. увайшлі ў гісторыю пад назовам Слуцкі збройны чын (або Слуцкі збройны ўздым).Яны зьяўляюцца яскравым сьведчаньнем нязгаснага імкненьня беларускага народу да незалежнасьці, яго рашучасьці ў змаганьні за волю.

*(Весткі і паведамленьні Нью-Ёрскага Аддзелу БАЗА,—1977, 15 лістапада, №369)*

## 80 ГАДОЎ АДНАЎЛЕНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Набліжаецца *80-я гадавіна Беларускай Народнай Рэспублікі.* Беларускія арганізацыі ў Амэрыцы і Канадзе пачалі рыхтавацца да гэтага важнага юбілею. Мяркуюць зрабіць сувеніры, сымбалі, паштоўкі, плянуюцца традыцыйныя юбілейныя мерапрыемствы. Цяпер гэтаму надаецца вялікае палітычнае значэньне, як і за часы савецкай акупацыі Беларусі і халоднай вайны. Прадстаўнікі *Беларускага Народнага Фронту* настойваюць, і з гэтым

пагаджаюцца беларускія дзеячы замежжа, аб актывізацыі дзейнасьці *Рады БНР* як адзінага на сёньняшні дзень дзейнага легітымнага інстытута прадстаўнічай улады і гаранта суверэнітэту Беларусі, які умоўна (намінальна) спаўняе функцыі Беларускага Ураду ў экзылі. Задача ў тым, каб зрабіць гэтыя функцыі рэальнымі.

*Рада БНР* можа і павінна спрыяць ліквідацыі акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі, уплываць на аднаўленьне парлямантарызму ў Беларусі, на адраджэньне *Беларускае Народнае Рэспублікі.*

Людзі, якія служылі КПСС, НКВД, Брэжневу, Гарбачову, Кебічу, Лукашэнку, дзесяцікроць здраджвалі і прадавалі Беларусь Маскве, а цяпер, не спрацаваўшыся з дыктатарам і пакрыўджаныя, выступаюць у так званай „апазыцыі", гэткія людзі ня могуць больш фігураваць ва ўладзе. У *Народнага Фронту і ў Рады БНР* (вызвольны рух у Беларусі і тры мільёны беларусаў за мяжой) ёсьць вялікі палітычны і прафэсыйны патэнцыял, каб пры неабходнасьці стварыць сапраўды беларускі ўрад і сыстэму ўлады. На гэтакую пэрспэктыву трэба настройваць беларускую вызвольную палітыку.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## І „ЧУВСТВА" ПРОСЯЦЦА „К ПЕРУ"

Цяпер у Злучаных Штатах і Канадзе знаходзіцца шмат беларусаў, што прыехалі з Рэспублікі Беларусь. Хто вырваўся на „заробкі", хто ўцякач, хто „па заданьню" і г.д. Ужо некалькі дзясяткаў чалавек атрымалі палітычны прытулак (азыль). Тыя, хто прагнуць беларускага культурнага і духоўнага жыцьця, тыя прыходзяць у беларускія арганізацыі. Людзі розныя. Нядаўна ў „Б.В." прыслаў свае сатырычныя вершы рускі паэт Зьмітрок Небядуля. Крытыкуе рэжым Лукашэнкі. Відаць, душа патрабуе выяўленьня ў спосаб вельмі папулярны — у рыфму. Выпрабаваная зброя. Той, хто жыве на Каўказе, хапаецца за аўтамат; той, хто жыве (жыў) у Беларусі — за рыфму. Такая ў нас атмасфэра.

Зьмітрок Небядуля складае гэтак:

*Р.Б. давно живёт в психозе,*
*Как на уборочной в колхозе.*
*Людей считают там за быдло —*
*Мне за страну свою обидно.*

Пра суд:

*И нет к тому суду доверия —*
*Им управляют внуки Берия.*

Пра таракана (у вершы „Таракан"):

*Из казны не по карману*
*Тратит деньги на охрану.*
*По ночам теперь не спит,*
*Своё кресло сторожит*
*Да усами шевелит*
*Словно чёрный таракан,*
*Что попал в пустой стакан.*

(Загадка для дарослых)

Паэт Небядуля піша, што ў людзей *„в глазах испуг"* і *„вся страна — колхозный двор".*

*Не могу я с тем смириться,*
*Что в стране моей творится,* — і г.д.

Але часам паэт лемантуе, не раўнуючы, як Купала.

*Беларусы! Вы ж не трусы —*
*Партизанские сыны,*
*Почему вы так живёте*
*Под пятой у сатаны?*

Ну, думаю, пэўна, паэт Небядуля беларус, толькі піша паруску, каб Лукашэнка зразумеў. Творчасьць перыяду дыктатуры. Рыфмы ў скарбонку „Лукі Мудзішчава".

***ЗП.***

## У ВУС НЯ ДЗЬМУЦЬ

Спакойнае жыцьцё настала для лукашэнкаўскіх чыноўнікаў у дыпляматычных установах у Амэрыцы. У паліцэйскія пастарункі „дыпляматы" больш не трапляюць (п'юць дома). На афіцыйныя прыёмы, аўдыенцыі, фуршэты і т.п. ня ходзяць, бо ніхто іх нікуды не запрашае і не пускае. У беларускіх эміграцыйных арганізацыях іх бачыць ня хочуць. І што ім застаецца рабіць? Хіба што даваць рэляцыі ў Менск „о большой проделанной работе" і толькі. Добра паводзіцца „дыплямату" за дыктатурай.

***Адам МІКША***

## ПРЭЗЫДЫЮМ РАДЫ БНР

15-га лістапада ў Нью-Брансьвіку каля Нью-Ёрку адбылося паседжаньне Прэзыдыюма Рады БНР. Разглядаліся палітычныя задачы дзейнасьці Рады, плян працы і структурныя пытаньні арганізацыі. Абмяркоўваліся мэтады ўплыву на зьмену сытуацыі ў Беларусі і адносіны да лукашэнкаўскага рэжыму ў заходнім сьвеце. Вызначаны пэўныя прыярытэты ў інтарэсах. Быў таксама праведзены абмен думкамі па важных пытаньнях беларускай палітычнай дзейнасьці за мяжой.

***А.М.***

## ТАЯМНІЦЫ КАМУНІСТЫЧНЫХ АРХІВАЎ.

Пасьля падзеньня большасьці таталітарных рэжымаў у Эўропе дакуманты спэцслужбаў робяцца даступныя як ахвярам рэжыму, гэтак і дасьледнікам.

У цэнтры грамадзкай увагі у Францыі апошнім часам апынулася гістарычнае дасьледваньне — кніга групы аўтараў пад назвай **„Чорная кніга камунізму"**. Яна ўзначальвае сьпіс бесцэлераў дакументальнай літаратуры, а дата выхаду кнігі — 7 лістапада — прымеркавана да 80-х угодкаў бальшавіцкага перавароту у Расеі. Кніга прададзена ўжо больш за 50 тыс. экзэмпляраў. 6 гісторыкаў у дадатак дасьледуюць, як ад 85-ці да 100 мільёнаў чалавек загінулі ад рук камуністычных рэжымаў у Савецкім Саюзе, Кітаі, Камбоджы і г.д. У кнізе скарыстаныя і дакуманты, якія былі рассакрэчаны толькі апошнім часам. Цікавасьць да выданьня падагрэў скандал у францускім парляманце. Апазыцыя запыталася , як прэм'ер-міністр Жо Стэн можа быць у кааліцыі з партыяй, якая была саюзьніцай сьмертаносных рэжымаў. Гучалі апраўданьні і абвінавачваньні, прайшлі нават акцыі пратэсту. Напружанасьць узмацніла і спрэчка паміж укладальнікам і двума аўтарамі. Укладальнік Стэфан Куртуа ў прадмове і пасьляслоўі даводзіць, што тэрор і тэрарызм ёсьць унутранай характарыстыкай камунізму, а не

проста інструмэнтам дзеля дасягненьня ягоных мэтаў. Два аўтары з гэтым аргумантам не згаджаюцца. Яны таксама дамагліся зьмены назвы выданьня. Першапачатковы варыянт быў **„Кніга злачынстваў камунізму"**. Заўвагу з вуснаў самога прэм'ер-міністра выклікаў тэзіс Куртуа аб падобнасьці нацызму і камунізму. Укладальнік аднак адзначае, што ў той час, як злачынствы нацысцкай Нямеччыны вельмі добра дасьледваны, пакуль няма ўсеабдымнага акадэмічнага дасьледваньня злачынстваў камунізму. Прычыны, па-першае, ў тым, што Савецкі Саюз быў саюзьнікам у Другой Сусьветнай вайне, па другое — злачынствы трымаюцца ў тайне, бо ідэя рэвалюцыі была ўлюблёнай ідэяй у колах інтэлектуалаў. Гэтая спрэчка і папулярнасьць самога прадмету ў краіне, якая ніколі не была пад уладай камуністаў і дзе яны нават часам уваходзілі ў склад ураду, сьведчыць пра тое, як мінулае яшчэ перасьледуе францускае грамадзтва, наколькі марксісцкі дыскурс паўплываў на інтэлектуальнае жыцьцё, як сёньня на новай глебе ідуць старыя бітвы. У пракамуністычных краінах падобныя спрэчкі носяць іншы характар. Там галоўнае — зьмест сакрэтных архіваў. На мінулым тыдні кіруючая кансэрватыўная кааліцыя Румыніі пагадзілася адкрыць архівы Сікурытатэ для ўсіх грамадзянаў і эмігрантаў. Аднак у краіне, дзе за часы камунізму загінула каля дзьвух мільёнаў чалавек, адразу пасьля падзеньня Чаушэску новая сакрэтная служба зьнішчыла вялікую частку старых архіваў. Румынія не выключэньне. Зараз адкрытыя архівы ў Вугоршчыне, Чэхіі, Балгарыі, і лічыцца, што там зьнішчаная прыкладна палова архіваў. На мінулым тыдні адпаведны законапраект аб адкрыцьці сакрэтных архіваў унесены Прэзыдэнтам Польшчы ў Сэйм. Тут таксама ў 89-м і 90-х гадах былі зьнішчаныя дзясяткі тысячаў дасье. Найбольш эмацыйна праходзіла абнародваньне дакумантаў у парляманце Балгарыі, дзе былі зачытаны нядаўна імёны чатырнаццаці дэпутатаў, якія супрацоўнічалі з камуністычнай тайнай паліцыяй. Многія дэпутаты крычалі міністру унутраных справаў, каб той называў прозьвішчы і імёны ня так хутка, каб цалкам адчуць і перажыць асалоду моманту. Кожны з названых меў пяць хвілінаў для адказу. Пакуль усе маўчалі, утаропіўшыся ў ногі, Пэтар Башыкарэ (ад былой камуністычнай партыі) заявіў, нават з выклікам: „Гэта праўда, і гэта быў найбольш цікавы і задавальняючы перыяд майго жыцьця." Міністр прызнаў, што сьпіс мог быць значна даўжэйшы, каб не надта высокія патрабаваньні да ўзроўню яганай доказнасьці. Нават некаторыя асобы, якія раней самі прызналіся ў супрацоўніцтве, не фігуравалі ў гэтым сьпісе. Аднак шмат дзе рэакцыя на праўду аб мінулым даволі стрыманая. У Вугоршчыне цяпер адкрыты гістарычны інстытут, куды перавезеныя архівы. І цікавасьць да гэтых дакумантаў ня надта вялікая. Прайшло ўжо 8 гадоў пасьля падзеньня камуністычных рэжымаў. Пакуль толькі некалькі румынскіх палітыкаў пацікавіліся зьместам архіўных дакумантаў. Выглядае, што зацікаўленьне, якое выклікаюць злачынствы камунізму у Францыі, у пост-камуністычных краінах яшчэ наперадзе.

*(Беларуская служба радыё „Свабода", — 23.XI.1997г. Паведамленьне А.Лукашука)*

## НАВІНЫ РЭЖЫМУ

За часы прэзыдэнцтва Лукашэнкі і ўлады рускіх спэцслужбаў у „суверэннай" Беларусі адчынілася каля 10 філіяў расейскіх ВНУ, якія набіраюць студэнтаў адусюль і робяць тут сваю „працу". Расейскія навучальныя ўстановы нідзе ў Беларусі не зарэгістраваныя, нікому не падпарадкоўваюцца і нікім не кантралююцца, робяць, што хочуць. Аднак бізнэс і „вучоба" трываюць, хоць ніхто не ўпэўнены, ці атрымаюць дыплёмы аб навучаньні і ці не змарнуюцца грошы за навуку.

Гэтыя рускія філіі ВНУ карыстаюцца неабмежаванымі прывілеямі ў рэжыму. Зусім іншыя адносіны да беларускіх недзяржаўных ВНУ. Тут і кантроль, і указаньні, і прэтэнзіі (праўда, адносныя). Хаця чужой ідэалягічнай кантрабанды тут ня менш, чым у расейскіх філіях.

*(Па матэрыялах незалежных газэт.)*

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ВУГОРШЧЫНЕ

Перамены, пакліканыя часам, істотна зьмянілі статус расейскае мовы ў сьвеце: яна мусіць саступіць месца ў лінгаістычнай сфэры славянскім мовам. Таму паўсюдна ў эўрапейскіх вучэльнях былыя кафедры расейскай мовы зьмяняюць сваю кваліфікацыю: старая назва не адпавядае новаму зьместу працы. Гэтакім чынам ў студзені 1995 году паўстала кафедра ўсходнеславянскай і балтыйскай філялёгіі Будапешцкага ўнівэрсытэту імя Лоранда Этвеша. Перадумоваю такіх зьменаў было ўвядзеньне лектарату па летувіскай, латышскай ды беларускай мовах. Распачынаў беларускія курсы ў Будапешце яшчэ ў 1994 годзе дацэнт Берасьцейскага ўнівэрсытэту сп.Мікола Аляхновіч; з 1996 году справу прадоўжыла дацэнт тае самае вучэльні сп.Валянціна Мароз. Што ж да гістарычнага ракурсу, то ўпершыню ў гісторыі Вугоршчыны факультатыўны курс беларускае мовы быў прачытаны ў Сегедзкім унівэрсытэце: у 1980-81 гадах забясьпечыў яго сп.Міхаіл Корчыц.

Пачыналася праца ў Будапешце з двух беларускамоўных курсаў: „Сучасная беларуская мова" і „Параўнальная граматыка ўсходнеславянскіх моваў". Цяпер чытаецца і „Гісторыя беларускае мовы", „Фразеалёгія ўсходнеславянскіх моваў", „Мова беларускіх летапісаў" ды іншыя. Можна гаварыць і пра пэўныя вынікі: напісаныя дзве дыплёмныя працы па беларусістыцы, а ў сьнежні 1997 году адбудзецца першы ў гісторыі Вугоршчыны дзяржаўны экзамен па беларускай мове. Здаваць яго намерылася студэнтка 5-га курса Эстор Смолінка, якая вывучала нашую мову цягам шасьці семестраў. Варта адзначыць, што экзамен адбудзецца ў Цэнтры замежных моваў („Ideqennyelvi Továbbkepzö Központ"), дзе кожны грамадзянін альбо жыхар Вугоршчыны можа здаць кваліфікацыйны экзамен па 53 (пяцідзесяці трох) мовах сьвету. То беларуская мова — пяцьдзесят трэцяя ў гэтым рэестры (ідзе пасьля стараславянскай). Ва ўнівэрсытэце ж да адкрыцьця спэцыяльнасьці „Беларуская мова і літаратура" (на што можна спадзявацца) дзяржаўны экзамен пакуль плянавацца ня можа. А увогуле, на факультэце філялёгіі студэнты набываюць спэцыяльнасьць „Руская мова і літаратура" з 1957 г., „Украінская мова і літаратура" — з 1961 г., „Сербская мова", „Харвацкая мова" — з 1992 г. ды інш.

Што ж да разьвіцьця беларусістыкі па ўсёй Вугоршчыне, то яна мае ўжо пэўныя традыцыі. Варты ўвагі той факт, што ў даведніку „Бібліяграфія венгерскай мовазнаўчай славістыкі да 1985 г." болей за два дзясяткі працаў зьвязаныя зь беларускаю моваю. Трэба думаць, што на будучыню маем добрыя

пэрспэктывы, бо на Вугоршчыне створана і працуе *Асацыяцыя беларусістаў* (болей за 30 чалавек). Узначальвае яе загадчык кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філялёгіі ***Андраш Золтан***, чые навуковыя працы складаюць асобную старонку вугорскай беларусістыкі. „Пачынаючы як чысты русіст, што дасьледаваў рускую мову XV —XVIII стст., ён зьвярнуў увагу на той аспэкт, на які дагэтуль амаль не зьвярталі ўвагі ці сьвядома замоўчвалі, гаворачы аб так званым польскім уплыве на мову Маскоўскай дзяржавы. Высьветлілася, што ў большасьці выпадкаў гутарка павінна весьціся не пра непасрэдны польскі моўны ўплыў, а пра магутнае ўзьдзеяньне старабеларускай („заходнерускай") моўнай традыцыі, асабліва на канцылярскую мову Масквы часоў Івана Жахлівага. Больш таго, старабеларуская мова была мовай, на якой вялася перапіска Масквы з крымскімі ханамі і Заходняй Эўропай. У пазьнейшым артыкуле А.Золтана „Шляхі пранікненьня заходнерускай лексікі ў велікарускую дзелавую мову ў XV ст." (1986) канстатуецца, што „заходнеруская мова ўспрымалася як мова дыпляматыі наогул". ...Выключная заслуга належыць А.Золтану ў высьвятленьні гісторыі ўсходнеславянскіх слоў, „якія паходзяць ад *господарь*, што ўпершыню распаўсюдзілася на ўсход з галіцка-валынскага арэола, даўшы пачатак маскоўскаму *государь, сударь* і беларускаму *гаспадар, спадар* (апошняе фіксуецца ў помніках з 1498 г.)"*

Вясною 1996 году адбылася першая навуковая канферэнцыя, зладжаная Вэнгерскай асацыяцыяй беларусістаў. Вынікам стаўся калектыўны зборнік „Hungaro-Alboruthenica1996", які засьведчыў *як пашырэньне тэматыкі, так і геаграфіі* беларусазнаўства на Вугоршчыне.

На вясну 1998 года заплянаваная другая беларусазнаўчая канфэрэнцыя „Мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім і краінах сучаснай Цэнтральнай ды Усходняй Эўропы: аналёгіі і пераемнасьць".

*"Кантакты і дыялёгі", №2, люты 1996г., с.36-37.

***Валянціна МАРОЗ***

## ЛІСТ У АБСЭ

November 28, 1997
To H. E. Niels Helveg Petersen
Minister of Foreign Affairs
and Chairman-in-Office of the OSCE

The Rada of the Belarusan Democratic Republic in Exile and the Belarusan Popular Front are deeply disturbed by flagrant violations of human rights in Belarus. We have documents to substantiate the facts Reuters reported on September 21, 1997: "Hundreds of people have been beaten, harassed, or detained since (President) Lukashenka launched a crackdown on critics of his increasingly authorilarian rule in late 1996."

The authorities in Belarus have closed numerous Belarusan-Language shools and destroyed textbooks which were published during the post-Soviet, pre-Lukashenka parliamentary republic (1991-1993). Thousands of Belarusan children have been deprived of the possibility to obtain an education in their native language. Police have been detaining and beating citizens for simply speaking Belarusan in public. In many cases people have been fired from their jobs because of their belonging to democratic opposition groups, including the Belarusan Popular Front.

We have evidence that the Lukashenka regime is preparing a massive wave of reprisals similar to those of Stalin. The latest development for such action is the banning of the independent daily SVABODA (FREEDOM) on November 24, 1997.

We count on the international community to come to the defense of freedom in Belarus. We request therefore that the Organization on Security and Cooperation in Europe send to Belarus a Commission to investigate the facts of PERSECUTION OF BELARUSANS by the regime of President Lukashenka.

***Ivonka J. SURVILLA***
***President of the Rada of the Belarusan Democratic Republic (in Exile)***
***Zianon PAZNIAK***
***Chairman of the Belarusan Popular Front***

## ЗВАРОТ У МІЖНАРОДНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

**COALITION IN DEFENSE OF DEMOCRACY AND HUMAN RIGHTS IN BELARUS**
9 River Road, Highland Park, New Jersey 08904
Tel.: (908)247-1822, 254-6527
Fax.(908)418-9838, 254-8951
Sponsored by:
Belarusan American Association, Inc.
Belarusian Congress Committee of America
Belarusan Autocephalous Orthodox Church
Belarusan Institute of Arts and Sciences
Belarusan-American Union
Belarusan American Cultural & Educational Society,Inc.
The World Association of Belarusan Jewry
Association of Belarusan American Veterans
Organization of Belarusan American Youth
Bielarusian Coordinating Committee of Chicago,Ill
Belarusan American Women's Association
Belarusan-American National Council
Belarusian Canadian Alliance
Belarusan Canadian Coordinating Committee
December 11, 1997

Free Trade Union Institute
1925 K Street NW, Suite 410
Washington, DC 20006-1105

**APPEAL**

Totalitarianism in the Republic of Belarus is on the rise. On November 24, 1997, the government of President Lukashenka has made another move to reduce the freedom of speech. Without any justifiable ground, the authorities have closed down the largest (circulation 90,000) and the only independent daily Svaboda (Freedom).

The closure of Svaboda further prepares the soil for growth in Eastern Europe of a regime that threatens, in collusion with Russia's red-brown political currents, to reverse the progress of democracy and market reforms in the region. The example of an all-powerful regime that is being mounted in Minsk will be contagious to other latent potentates on the territory of the former Soviet Union. Lukashenka's one-man rule and his bid for presidency of a Russia federated with Belarus is a prospect not to be ignored by the rest of the world because it leads to the resurrection of Russian great-power imperialism with a potential for nuclear blackmail.

We appeal, therefore, to all those concerned with the future of international peace to come to the rescue of the beleaguered freedom in the Republic of Belarus. In the context of latest developments in Belarus, we underscore the growing and uniquely significant role of Radio Liberty's Belarusan Service as a source of news and analyses.

This service needs to be expanded in order to counteract the ongoing drastic reduction of informational and political pluralism in Belarus.

*Alex SILWANOWICZ, Co-Chairman*
*Jan ZAPRUDNIK, Co-Chairman*

## ЛІСТ ДА СТАРШЫНІ АБСЭ сп. Г. ПЭТЭРСЭНА

H.E. Helweg Petersen
Chairman-in-Office OSCE

01December,1997
New York

Honorable Mr. Petersen!

The Belarusans who stand for democracy, freedom, and human rights voice their concern about three political prisoners of the regime of president Lukashenka, — Vadzim Labkovic (16 years old), Ales Sydlouski (18 years old), Vadzim Kabanchuk (22 years old). These youngsters were apprehended for taking part in the demonstration. It is the forth month that they are kept in detention under inhuman condition without due process. They are deprived of the right to contact both their parents and the lawyers. They are not allowed to receive any assistance despite the serious health condition of one of the prisoners, V.Kabanchuk (he suffers from pyelonephritis). They suffer from starvation and coldness.

The 16 year old Vadzim Labkovic is a high school student who is deprived of the right to continue his education. He is accused of writing graffiti expressing Belarusan ideas and desire of democracy in Belarus. This is a striking example of brutal behavior of the regime.

We would greatly appreciate if you could help us to restore democracy and respect for human rights in Belarus. In addition to my previous letter in your name where I asked to assign a special OSCE commission on discrimination of the Belarusans on account of ethnicity by Lukashenka's regime, I would like to bring to your attention the facts of inhumane conditions of detention, gross violations of law and human rights. I would also ask for your assistance in releasing three Belarus citizens Vadzim Labkovich, Ales Sydlouski, Vadzim Kabanchuk.

*Zianon PAZNIAK*
*Chairman of the Belarusan Popular Front "Adradzennie"*

## ПРАВААХОЎНЫЯ І МІЖНАРОДНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

**АБСЭ:**
**Chairman-in-Office OSCE**
**Royal Danish Ministry of Foreign Affairs**
**2, Asiatiks Plads**
**DK — 1448 Copenhagen K**
**Denmark**
**fax. + 45 - 31 - 54 - 05 - 33**

---

**U.S. Commission on Security and Cooperation in Europe**
**234 Ford House Office Building**
**Washington, DC 20515, U.S.A.**

---

**International League for Human Rights**
**432 Park Avenue South, 11-th Floor,**
**New York, N.Y. 10016, U.S.A.**

---

**Free Trade Union Institute**
**1925 K Street, N.W., Suite 410**
**Washington, DC 20006 - 1105, U.S.A.**

---

**Lawyers Committee for Human Rights**
**330 Seventh Avenue,**
**New York, N.Y. 10001, U.S.A.**

---

**РАДА ЭЎРОПЫ:**
**Council of Europe,**
**67075 Strasbourg Cedex**
**France**
**tel.: +33 3 88 41 20 00**
**fax: +33 3 88 41 27 81**
**+33 3 88 41 27 82**
**+33 3 88 41 27 83**

---

**Amnesty International,**
**International Secretariat**
**1 Easton Street**
**London**
**WC 1 X - 8 DJ**
**United Kingdom**
**а) У Швэцыі:**
**Amnesty International,**
**PO Box 23400, S - 10435,**
**Stockholm, Sweden**
**fax: + 468 34 1608**
**б) У Швайцарыі:**
**Amnesty International,**
**AI Swiss Sectfon, Postfach,**
**CH - 3001, Bern,**
**Switzerland**
**fax: + 41 31 307 22 33**

---

**United Nations Center for Human Rights,**
**Palais des Nations**
**8-14 avenue de la Paix**
**CH-1211 Geneva 10**

---

**European Parliament:**
**а) Avenue de L'Europe**
**F - 67000, Strasbourg.**
**б) Plateau du Kirchberg**
**L - 2929, Luxembourg.**
**в) Rue Belliard 97 - 113**
**B - 1047 Bruxelles.**

---

## АБ'ЯВА

*Да чытачоў „Беларускіх Ведамасьцяў" у Беларусі*

Прашу дасылаць лісты, зьвесткі і факты аб парушэньнях правоў людзей, перасьледу за беларускую праваабарончую і нацыянальна-культурную дзейнасьць, дакуманты, якія сьведчаць пра злачынствы рэжыму і інш. матэрыялы па адрасу:

*Беларусь, Менск — 220005,*
*вул. Варвашэні, 8, Сядзіба БНФ*
*Алесю Бяляцкаму (З адзнакай „Бел. Вед." на канвэрце)*

У лістах дакладна пісаць імёны, прозьвішчы, пасады, даты, нумары, поўныя назвы ўстановаў і расшыфроўкі абрэвіятураў. Пад лістом павінна быць поўнае прозьвішча аўтара, паштовы адрас, пажадана тэлефон. Ананімныя лісты не зможам скарыстаць.

*Зянон Пазьняк*

## SUMMARY

The fifth issue of the bulletin begins with "We've Had Enough of the Presidency!", an article by Zianon Pazniak reaffirming the Belarus Popular Front's call for Lukashenka's removal, which they see as necessary and inevitable. He further states that because of Lukashenka's firm control of the government, no legal mechanism exists for an impeachment process. However, the citizens of Belarus can successfully challenge the dictatorship through public pressure in all spheres of life — in politics and social work, education and arts, trade unions and work-places, in print and on the streets, even in the day to day business of life. All actions should focus on one call: "Lukashenka mast go". The Belarus Popular Front underscores the need for removal of Lukashenka and also for the abolition of the presidential system and the presidential position. Belarus should be a country governed by a parliament otherwise, the danger of a new dictator and a new puppet of Moscow will always exist.



*„Фронт – маё і тваё абуджэньне"*

Zianon Pazniak suggests that the elections of a new Parliament should be conducted immediately after Lukashenka's removal from the presidency. Parliamentary elections based on the old and flawed electoral regulations will undoubtedly present difficulties, but they are necessary to guarantee a change in the corrupt Consititution of 1994. The Parliament would formulate the government and appoint a Prime Minister who would perform the functions of the leader of the country. In cases of a Parliamentary crisis, the Constitutional Court would make decisions on the dismissal of the Parliament and on new elections. Establishment of such a parliamentary system would be a first step forward, towards a better future for the Belarusan people.

THE BPF also calls on the Belarusan people to believe in themselves, to rely on themselves, and to support all those political positions which would guarantee a higher standard of life as seen in the western European countries, but not in Russia. That's why Belarus should exert every effort towards cooperation with the European community.

'Black Anniversary'by Marjan Vankievich marks the first anniversary of the unconstitutional coup d'etat in Belarus. The author emphasizes that the free world lacked the political moral force to denounce the ideology of communist totalitarianism as a crime against humanity and failed to prohibit its legitimacy in society. Neither did the free world show a desire to condemn those who committed atrocities during the communist era. A communist Nuremberg never took place. As a result, we see communism and its legacy returning to society and seizing power. Ibsen's Ghosts' are returning because the living failed to say "NO", and failed to pronounce a human judgment.

Human rights violations are documented in "Political Prisoners of the Pegime" and in "Chronology of Violations of Human Rights in Belarus". In the first article we learn of three young men, Vadzim Labkovich (16 years old), Alyaksey Shydlouski (18), Vadzim Kabanchuk (22), why were imprisoned four months ago by Lukashenka's militia. The charge is making anti-Lukashenka statements and calling for a free and democratic Belarus. All of them are denied visits by parents and the right to a public defender. After the most recent severe beating, Alyaksey Shydlouski was transferred to the prison hospital. These three young men, members of the democratic Young Front, are jailed and tortured to terrify the people, especially the Belarusan youth, into obedience. The author of the article is appealing to the international organizations, politicians, and all people of good will to raise their voices in defense of the these young prisoners of conscience. Economic and political sanctions against Lukashenka's dictatorial government must be imposed by the international community until it respects human rights and honors international agreements. It must be recognized that Russan powers have covertly hatched the Lukashenka regime and are continually sustaining it.

"Chronology of Violation of Human Rights in Belarus" lists human rights violations from late August through November 1997. Much information is given on human rights violations on the basis of Belarusan nationality. The popular and widely read Belarusan language opposition publication "Svaboda" has been closed down, Belarusan schooling and education continues to be abridged. Arrests and beatings for wearing the national white-red-white flag and for speaking in the Belarusan language are common. On September 30, 1997, Mr. Alyaksandar Kontus, a young worker from the Zavodzki region of Miensk and a member of the BPF wearing a white-red-white button in his lapel, was attacked and severely beaten while walking home from work. The doctors determined that he suffered broken ribs and punctured lungs. Mr. Kontus identified the militiamen who beat him up and filed a complaint against them, but the court refused to look into the matter and dismissed all the charges. The same thing happened to 17 year old Zhenia Mitraeva. It is now a regular occurrence in cases involving militia' beatings. The courts dismiss the charges without due process.

Lukashenka's regime has made a fourth attempt to "investigate" and revise the history of Kurapaty. At the present time, the KGB is destroying the Kurapaty graves under the pretext of digging the grave site for more information.

„Endeavors to Liquidate the Dictatorial Regime in Belarus" gives a commentary on the resolutions of the November Congress of the Belarus Popular Front. The BPF points out that the communist hard-liners of Russia, i.e. the special units of the KGB with whom Lukashenka is collaborating, and whose directives he carries out, are actively engaged in an effort to bring him to power in Russia. They expect that this will bring about the rebuilding of the Russian empire. In that position Lukashenka would have access to Russian nuclear weapons and would thus become a threat to civilized society. The BPF reiterates that removal of the savage and anti-Belarus regime of Lukashenka and a full scale rebuilding of democratic institutions in Belarus is its primary goal.

Zianon Pazniak's visit to the Czech Republic is reviewed. Mr. Pazniak had meetings with Peter Pidgard, leader of the Senate; Ivan Medek, Chief of the Presidential Staff; and various members of Foreign Ministry.

Academician I.Nikitchanka analyzes the state of the Belarusan economy for the three years of Lukashenka's presidency. He points out that the government issues inflated economic figures and makes a stromg attempt to keep true statistics on the economy inacceessible. For example, government propaganda announced a 10% growth in the gross national product of Belarus, while the statistical analysis of the data indicates a 6% drop. Furthermore, Mr. Nikitchanka shows a frightening destruction of the Belarus economy, especially in the area of agriculture. On January first of 1991, the total value of agricultural commodities was equivalent to 35.7 billion US dollars. And at the beginning of 1997, the total value dwindled to 4.8 billion US dollars.

Information is also given on the 22nd session of Rada BNR (in exile), the 77th anniversary of the Slucak Uprising, and the communist archives.

**Беларускія Ведамасьці**

Беларускае выданьне

Пры садзеяньні "National Endowment for Democracy" і супрацоўніцтве Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Амэрыцы

**Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Вашчанка**

**Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127**

**тэл./факс: (+48 22) 628 76 73**